PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 48 (2011) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 27 ЛІСТАПАДА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

*Алег Латышонак*

## Дзень Герояў

27 лістапада святкуем 74 гадавіну Слуцкага збройнага чыну. У гэты восеньскі дзень 1920 года некалькі тысяч жаўнераў 1 Слуцкай брыгады стральцоў войск Беларускай Народнай Рэспублікі ўступілі ў няроўны бой з Чырвонай Арміяй. З часам угодкі Слуцкага збройнага чыну сталі святкавацца як Дзень Герояў, у які ўспамінаем усіх, што змагаліся і гінулі за незалежную Беларусь.

Сярод іх былі і нашы землякі. Іх імёны надоўга зніклі ў бяспамяцтве, у якім гадавалі наш народ дзесяцігоддзямі. Сёння хачу прыпомніць Міколу Дзямідава, з чыёй асобай звязаны таксама ўспамін пра шматлікіх нашых землякоў, якія змагаліся пад яго камандаваннем за незалежную Беларускую Народную Рэспубліку.

Мікола Дзямідаў нарадзіўся 10 снежня 1888 г. у сям'і Станіслава Катнароўскага і Алены з Каліноўскіх. Яго маці аўдавела ў гэтым самым годзе і выйшла другі раз замуж за акцызнага ўрадніка Івана Дзямідава, які ўсынавіў Міколу 10 снежня 1889 г., надаючы яму сваё прозвішча.

Міколу выхоўвалі галоўным чынам яго дзяды: Аляксандр Каліноўскі, брат славутага Кастуся Каліноўскага і Станіслаў Катнароўскі, які меў маёмасць у Ломжы. Тое, што ўнук брата Кастуся Каліноўскага стаў беларусам, прымушае задумацца над сілай сямейнай традыцыі; яна ўсё ж такі, відаць, была беларускай.

У 1899 г. Мікола паступіў у Ломжынскую філалагічную гімназію. У 1905 г. здаў экзамен на настаўніка двухкласных пачатковых школ пры Свіслацкай настаўніцкай семінарыі (і зноў сямейная традыцыя? Гімназію ў Свіслачы скончыў жа Кастусь Каліноўскі...).

У 1907 г. Мікола Дзямідаў атрымаў пасаду ў канцылярыі службы руху Праўлення Прывіслянскіх чыгунак і паступіў на вячэрнія курсы пры Варшаўскім універсітэце, на гістарычна-філалагічным факультэце, як вольны слухач.

У 1910 г. пры беластоцкім Рэальным сярэднім вучылішчы здаў экзамен на настаўніка павятовых школ. З 1 кастрычніка 1911 г. назначаны быў кіраўніком беластоцкага двухкласнага Чыгуначнага вучылішча Палескіх чыгунак.


*Мікола Дзямідаў.*

У 1912 г. пры Віленскім настаўніцкім інстытуце праслухаў летні курс па педагогіцы і методыцы, а таксама лекцыі па гісторыі г.зв. Заходняга краю (Беларусі і Літвы).

18 ліпеня 1914 г. М. Дзямідаў быў прызваны на ваенную службу і назначаўся на розныя пасады ў гаспадарчых падраздзяленнях розных вайсковых часцяў у Ковеншчыне. У канцы студзеня 1915 г. быў пераведзены на пасаду справавода мабілізацыйнага аддзела афіцэраў запасу ў Петраградзе, дзе ў канцы года наведваў курсы пры ваеннай Мікалаеўскай акадэміі. У кастрычніку 1916 г. быў накіраваны ў Першае паўлаўскае ваеннае вучылішча, якое закончыў 1 лютага 1917 г. як афіцэр і назначаны быў курсавым афіцэрам пры 7 роце, згаданага вучылішча.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ўступіў у Хаўрус афіцэраў-рэвалюцыянераў і назначаны быў Ноўгарадскім абласным камісарам. У гэтай ролі наведаў Дзвінск, дзе папаў у палон да немцаў, якія на пачатку сакавіка 1918 г. захапілі гэтую частку беларускіх зямель.

Пасля рэвалюцыі ў Нямеччыне ў канцы лістапада 1918 г. быў звольнены з палону і падаўся ў Вільню, дзе адразу ўключыўся ў арганізацыю беларускага войска (гэта паказвае, што з беларускім вайсковым рухам мог ён сустрэцца ўжо ў нямецкім палоне, бо беларусаў-ваеннапалонных арганізавалі беларускія вайскоўцы).

20 снежня разам з ген. Кіпрыянам Кандратовічам (які арганізаваў беларускае войска, а пасля назначаны быў намеснікам міністра вайсковых спраў Літоўскай Рэспублікі) і ўладамі БНР пераехаў у Гродна і тут быў назначаны камендантам горада. На гэтым пасту праявіў надзвычайную дзелавітасць. За кароткі час, у вельмі цяжкіх палітычных і гаспадарчых умовах, арганізаваў асобны батальён і эскадрон гузараў, жандармерыю, чыгуначную, паштовую і тэлеграфную службы. Арганізаваў таксама павятовыя камендатуры і вярбовачныя пункты па ўсёй тэрыторыі Беларусі, якая знаходзілася яшчэ пад нямецкай уладай, у тым ліку ў Беластоку і Бельску. З гэтага відаць, што ў гродзенскіх беларускіх часцях служылі таксама і жыхары Беласточчыны.

Праца беларускіх вярбовачных афіцэраў на Беласточчыне была вельмі цяжкая, паколькі на яе тэрыторыю паволі насоўваліся атрады польскай Беларуска-Літоўскай дывізіі. Дзеля прыкладу, у вёсцы Востраў-Паўднёвы арыштаваны быў беларускі вярбовачны афіцэр Гораш, якому дапамаглі ўцячы праваслаўныя сяляне, даведаўшыся, што пагражае яму рас-

*Працяг на стар. 4*

*Мікола Ваўранюк*

## УЗНАГАРОДА З ЯПОНІІ

**Размова з АНДРЭЕМ ФІЛІМАНЮКОМ — настаўнікам малявання ў Пачатковай школе н-р 3 у Бельску-Падляшскім.**

*— Андрэй, Твой вучань атрымаў узнагароду ажно ў Японіі.*

— Гэта быў восьмы мастацкі конкурс для дзяцей „Малюю дом маіх мараў". А арганізавала яго выдавецтва „Asahi Shimbun і Asahi Gakusei Shimbun", пры падтрымцы японскіх міністэрстваў будаўніцтва і адукацыі ды UNICEF. Агулам на гэты конкурс было высланых 51300 прац з цэлага свету. Найбольш, вядома, з Японіі (46417), многа з Польшчы — 3307 малюнкаў, далей ідуць такія краіны, як ЗША (268), Тайланд (250), Румынія (130), Пакістан (97), Францыя (78) ды іншыя. З гэтай масы 75 прац атрымалі ўзнагароды, 35 з якіх — першую ўзнагароду. Сярод тых 35-і ўзнагароджаных ёсць і вучань нашае школы — **Адрыян Флёрка**. Цяпер ён у восьмым класе, але калі высылаў гэты малюнак, быў у сёмым.

*— Які дом намаляваў Адрыян?*

— Намаляваў ён наш вясковы дом, драўляны, з народным афармленнем. Нават яго жыхары ў народнай беларускай вопратцы. Да кожнага рысунка трэба было дадаць кароткае пояснение, чаму аўтару якраз такі вобраз дарагі. Адрыян тлумачыў, што для яго дом павінен сядзець глыбока ў пэўнай традыцыі. Дом без традыцыі, гэта зусім не дом.

*— Як вы даведаліся пра гэты конкурс?*

— Ёсць такі часопіс для настаўнікаў англійскай мовы „Forum". Выдаецца ён у Вашынгтоне і разыходзіцца па ўсім свеце. Вось там я прачытаў інфармацыю пра конкурс і паслалі мы са школы некалькі прац. Можна было высылаць непасрэдна на адрас арганізатараў або праз UNICEF. Мы паслалі непасрэдна ў Японію. Адрыян нават не ведаў, што ўдзельнічае ў гэтым конкурсе. Ён рыхтаваўся да іншага, але на той не паспеў, а тэма малюнка падыходзіла да гэтага, ну і я выслаў. Тым большай неспадзяванкай для яго была ўзнагарода.


*Адрыян Флёрка.*

*— Хто ты па адукацыі, англіст?*

— Я закончыў гісторыю мастацтва ва Універсітэце Адама Міцкевіча ў Пазнані. Меў добрую нагоду практыкавацца ў англійскай мове, бо тры гады працаваў з англічанамі на археалагічных раскопках над Дунаем. Рабіў я там для іх рысункі. У „тройцы" працую другі год як настаўнік малявання.

*Працяг на стар. 5*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Propozycje podziału przyszłorocznego budżetu państwa wskazują, że w końcu zwyciężył u nas afrykański model rozwoju. Na rozbudowę Pałacu Namiestnikowskiego przewiduje się ponad 450 mld zł. Jest to roczne uposażenie (przy górnej stawce ok. 8 mln miesięcznie) 4 500 profesorów akademickich. W Afryce są państwa, w których większość obywateli jest analfabetami, natomiast rezydencje prezydenckie oszałamiają przepychem najbardziej zamożnych ludzi cywilizowanego świata.*

*(Wprost, nr 45)*

* * *

*Ordynariat polowy dziś żywcem przypomina czasy PZPR. Odbywa się niezmienny wyścig do łask biskupa polowego. Gdy spojrzeć na stosunki kurii polowej z generalicją, można mówić o pewnym fenomenie. Zażyłość pieczętowana jest systematycznie udziałem w uroczystościach, wieńczonych tradycyjnymi kolacjami u biskupa. Niektórzy mówią o istnieniu dworu ze swoistym rytuałem i wpływami. Bywanie na nim może oznaczać rychłe wyniesienie na publiczną scenę. Biskup Głódź wyciągnął rękę do przestraszonych widmem dekomunizacji generałów. Dziś wszyscy generałowie mają już śluby kościelne. W zamian za rozgrzeszenie biskup uzyskał potęgę wpływów: bez jego akceptacji nie ma nominacji generalskich.*

*(Polityka, nr 45)*

Цяжка будзе праваслаўнаму капелану стаць генералам.

* * *

*W wojsku ciągle rządzi nuda, wódka i fala. Trzeba by wiele czasu, by opisać bezsensowne koszarowe chamstwo.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 258)*

* * *

*Народу жывецца цяжка. Больш таго, жыццё пагаршаецца. Праўда, Прэзідэнт іншай думкі наконт гэтага. „Так, праблемы ёсць, але жыць жа можна", — сцвердзіў Аляксандр Лукашэнка. Ды ў народа прэзідэнцкі клопат выклікаў пачуццё, так скажам, трывожнай радасці. Адзінае, што можа мацаваць наш дух — гэта прэзідэнцкі аптымізм.*

*(Голас Радзімы, н-р 43)*

Безумоўна так, аптымізм — гэта пачатак поспеху. А народ ніколі не ведае чаго хоча. У ліпені хацеў Сашку прэзідэнтам бачыць, сёння наракае. А чаго захоча заўтра..? Не, так далей быць не можа, хопіць гэтага безгалоўя. Сашка, трымайся!

* * *

*Расія змякчыла сваю пазіцыю ў пытаннях беларускай запазычанасці. Беларускія хлопцы не паедуць ваяваць у Таджыкістан. А ўсё гэта вырашана падчас мужчынскай размовы прэзідэнта Лукашэнкі з прэм'ерам Чарнамырдзіным у Маскве.*

*(Звязда, н-р 218)*

Аж хочацца крыкнуць: „Маладзец, Лукашэнка!" Па-мужчынску гаварыць умее... Але навошта ўвогуле гаварыць пра высылку беларускіх салдатаў у азіяцкія горы. Афганістана было мала?

* * *

*З аднадзённым рабочым візітам прыбывае ў Рэспубліку Беларусь міністр замежных спраў Рэспублікі Польшча Анджэй Аляхоўскі. Як вядома, абодва бакі надаюць яму вялікае значэнне...*

*(Народная газета, н-р 202)*

„Газета" змяшчае гэту інфармацыю на першай старонцы побач партрэта Аляхоўскага і яго біяграфіі. У беларускім тэлебачанні ўсе інфармацыйныя праграмы пачыналіся з візіту Аляхоўскага ў Менску. У польскім тэлебачанні толькі ў „Тэлеэкспрэсе" сказалі дзве фразы, што міністр замежных спраў адправіўся ў напрамку Менска. Больш нічога. Як відаць „абодва бакі надалі яму вялікае значэнне".

* * *

*Самае крыўднае, што беларусы працуюць зусім не горш і не менш за немцаў і нічога з гэтага не маюць.*

*(Свабода, н-р 40)*

* * *

*Dziś w księgarniach trudno uświadczyć jakąkolwiek pozycję z literatury rosyjskiej. W kinie i telewizji praktycznie nie wyświetla się filmów rosyjskich. Gdyby nie bazary, Polacy zapewne zapomnieliby o języku rosyjskim, który jako przedmiot skutecznie został wycofany ze szkół.*

*(Czasopis, nr 11)*

* * *

*Пользуясь случаем, хотел бы выразить большую благодарность правительству Республики Беларусь за хорошее отношение к полякам, которые живут на вашей территории. В свою очередь здесь, в Польше, мы также стараемся сделать всё, чтобы белорусы проживающие у нас, не чувствовали себя обделёнными. Примеров тому много. (...) Мы теперь думаем об откритии самостоятельного белорусского университета в Белостоке. Мне кажется, есть реальная возможность открыть его уже через полтора-два года,* — сказаў віцэ-прэм'ер РП Владзімеж Цімашэвіч карэспандэнту

*Народнай газеты (12.10.1994).*

Усё добра! У Беластоку будзе беларускі універсітэт. Трэба ўжо разглядацца за рэктарам, дэканамі...

* * *

*Зразумела, што палякі будуць і надалей рабіць сваю справу на Беларусі, незалежна ад нашага стаўлення да гэтага. Магілы акаўцаў на Гарадзеншчыне аднаўляюцца. Але паспрабуй ты паехаць на Беласточчыну, каб адшукаць магілы беларускіх партызанаў і паставіць ім помнікі... Якая хваля абурэння ўзнімецца, як пачне ляментаваць мясцовая польская прэса!*

*(Свабода, н-р 40)*

Ёсць гэтая беларуская дзяржава ці яе яшчэ (а можа ўжо) няма?

* * *

*Przywódca socjalistycznych Chin, Mao Tse-tung otaczał się młodymi dziewczynami, tym młodszymi, im sam był starszy. Nie pozwalał się leczyć z choroby wenerycznej, „ponieważ nie czuł z tego powodu żadnych dolegliwości". Kobiety, z którymi sypiał, twierdziły, że są dumne z tego, że to on je zaraził. Mao nigdy nie mył zębów, nie brał kąpieli ani prysznica, czasem ochrona wycierała jego ciało ciepłymi ręcznikami.*

*(Wprost, nr 45)*

* * *

*Nie jestem zwolennikiem usunięcia Mieczysława Wachowskiego z otoczenia prezydenta. Wiadomo, że jest on mózgiem L. Wałęsy, a pozbawienie kogoś mózgu nie może wyjść na dobre,* — сказаў Владзімеж Мусял.

*(Kurier Poranny, nr 236)*

* * *

*Pomyśl o nowym aucie. Już dziś Fiat oferuje Ci atrakcyjną cenę. To Twoja szansa.*

*(Gazeta Współczesna, nr 214)*

Гучыць таксама забаўна як: „OMO dwa tysiące wybieli Ci..."

# З мінулага тыдня

Міністр унутраных спраў Анджэй Мільчаноўскі пабываў з афіцыйным візітам у Маскве. У перамовах з кіраўніком расейскага МУС закраналася, між іншым, пытанне аховы грамадзян абедзвюх краін за мяжой.

**Дзеячы Уніі Вольнасці з Кракава** патрабуюць ад міністра замежных спраў прызнаць віцэ-консула Расейскай Федэрацыі ў гэтым горадзе **Барыса Шардакова** персонай нон грата. Прычынай гэтаму мае быць выказванне дыпламата да дэманстрантаў перад консульствам у гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі. У заяве, падпісанай **Янам Марыяй Ракітам**, пішацца, што віцэ-консул сказаў: „Мы таксама памятаем аб вашых злачынствах. (...) Пілсудскі 130 тысяч людзей заключыў у канцлагеры (...) 60 тысяч расейцаў забіў. (...) Акаўцы стралялі ў краснаармейцаў, якія вызвалялі Польшчу".

**Консул РП у Гродне Мар'юш Машкевіч** наведаў Беласток і сустрэўся з ваяводам **Анджэем Гаеўскім** і віцэ-ваяводам **Гжэгажам Рыкоўскім**. Тэмай гутаркі былі пытанні гандлёвага і культурнага абмену з Гродзеншчынай і праца консульства.

**III Агульнапольскі агляд мастацкіх дасягненняў нацыянальных меншасцяў „Супольнасць у культуры"** адбыўся ў Варшаве. Беларусаў прадстаўлялі хор з Гарадка, калектывы „Рэаль" і „Брага", народныя мастакі і літаратары.

**Дэлегацыя гарадскіх улад Беластока** пабывала з візітам у латышскім горадзе Елгава. Апрача ўдзелу ў святкаваннях Дня незалежнасці Латвіі і сустрэч з прадстаўнікамі польскай дыяспары, дэлегацыя вяла перамовы наконт гаспадарчага і культурнага супрацоўніцтва абодвух гарадоў.

**Польскі тыднёвік „Глос з-над Немна"**, які выходзіць у Гродне, з новага года будзе распаўсюджвацца і ў Польшчы. Падпіску на гэтае выданне прымае „Рух".

**У Музеі вёскі ў Юроўцах каля Беластока** ў выніку пажару згарэла частка скансэна. З дымам пайшлі тры клуні, чатыры хлявы, хата і два манежы вартасцю ў паўтара мільярда злотых. Прычынай пажару быў праўдападобна падпал.

**8 лістапада г.г. Міністэрства аховы** асяроддзя, рэсурсаў і лясніцтва выдала пастанову ў справе аховы і добраўпарадкавання **Белавежскай пушчы**. Галоўныя мэты рашэння гэта: захаванне натуральнай экасістэмы, ахова біялагічнай разнавіднасці, аднаўленне прыроднага асяроддзя і ўзмацненне карыснага ўплыву на яго лясоў. Такім чынам Белавежская пушча стане адным з сямі ўзорных лясных комплексаў у краіне, у якім прыярытэтнымі лічацца экалогія і ахова асяроддзя.

На нядаўна ўстаноўленым **гербе Гайнаўкі** віднеюцца выявы чатырох дрэў і дыскавай пілы — сімвалы дрэваапрацоўчай прамысловасці. Супраць такога герба афіцыйна запратэставалі Таварыства прыяцеляў Белавежскай пушчы і Гайнаўскай зямлі а таксама II Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання. Апаненты лічаць, што Гайнаўка павінна стаць прыкладам аховы пушчы і не павінна ў гербе мець выяву пілы.

**Дзесяць каштоўных ікон** і лампада былі ўкрадзены са стараверскай маленны ў Войнаве. Паліцыя і жыхары вёскі мяркуюць, што зладзеяў да крадзяжу „заахвоціла" тэлеперадача аб жыцці войнаўскіх манашак.

**Тры жыхары Наваполацка** спынілі каля Клюкавіч свайго земляка, які на машыне „Форд-эскорт" ехаў да КПП ў Полаўцах, затым выстралілі ў яго з газавага пісталета ды забралі дакументы і машыну, а шафёра прывязалі да дрэва ў лесе каля Зубачоў. На другі дзень раніцай людзі знайшлі празяблую ахвяру нападу і паведамілі паліцыю, а тая пагранічнікаў, якія ў чарзе перад шлагбаумам вылавілі крадзеную машыну і трох злачынцаў.

# Праз тыдзень у „Ніве"

- Адкрыццё помніка братам Балаховічам у Гайнаўцы.
- Падабенствы кашубаў і беларусаў — разважанне С. Яновіча.
- Беларуска-польскія размовы пра гісторыю і сённяшні дзень.
- Юбілей „Васілёчкаў".



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Прэзідэнт хварэе, а чыноўнікі бяздзейнічаюць

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, які праходзіў курс лячэння супраць радыкуліту ў Сочы, вырашыў датэрмінова перапыніць лячэнне і вярнуцца ў Менск. Адной з прычын такога рашэння была яго занепакоенасць бяздзейнасцю органаў мясцовай улады ў рэалізацыі ўжо прынятых рашэнняў.

## Прадоўжаныя паўнамоцтвы

Новую дату заканчэння паўнамоцтваў гэтага саставу парламента рэспублікі назваў Прэзідыум Вярхоўнага Савета. На думку юрыстаў, цяперашні дэпутацкі конкурс атрымаў свае мандаты не да лютага — сакавіка 1995 года, як неаднаразова ўказвалася ў прэсе, а да 15 мая. Менавіта ў гэты дзень у 1990 годзе адкрылася першая сесія ВС XII склікання.

## Консул РП у Гродне

Мар'юш Машкевіч назначаны консулам Рэспублікі Польшча ў Гродне. Раней ён займаў пасаду саветніка пасольства РП у Літве. На цырымоніі яго прадстаўлення, якое адбылося ў Гродзенскім абвыканкаме, прысутнічала пасол РП у Беларусі Альжбета Смулэк.

## Пасол ЗША ў МЗС

Міністр замежных спраў Уладзімір Сянько прыняў пасла ЗША ў РБ Кенета Ялавіца. Падчас гутаркі былі закрануты пытанні прыцягнення амерыканскіх інвестыцый у беларускую эканоміку.

## На радзіме Коласа

Сёлетняе літаратурнае свята „Каласавіны" — юбілейнае. Праходзіла яно дзесяты раз. На радзіме песняра ў Акінчыцах адбыліся выступленні фальклорных гурткоў дзіцячых садкоў. У дзень нараджэння Якуба Коласа ў музеі народнага паэта сабраліся маленькія мянчане. Перад імі выступілі сын пісьменніка Даніла Міцкевіч, літаратары: Артур Вольскі, Ніна Галіноўская і Віктар Шымук. Адбыліся таксама навуковая канферэнцыя і ўрачыстасці на Стаўбцоўшчыне.

## Дар з-за акіяна

У хірургічнае аддзяленне раённай бальніцы ў Стоўбцах дастаўлены 10 ёмістых скрынь з лекавымі прэпаратамі, аперацыйнай бялізнай, перавязачнымі матэрыяламі і медыцынскімі інструментамі. Усе гэтыя неабходныя стаўбцоўскім хірургам рэчы даслаў са ЗША іх зямляк, ураджэнец вёскі Мікалаеўшчына, вядомы ў беларускіх эміграцыйных колах грамадскі і культурны дзеяч Мікола Прускі. Трэба зазначыць, што суайчыннік ужо ў другі раз перадае гуманітарны дар на сваю малую радзіму.

## Скарачэнні ў войску

Указ прэзідэнта Беларусі аб скарачэнні дзяржаўнага апарату кіравання актыўна выконваецца Міністэрствам абароны. Асобныя службы ваеннага ведамства пахудзелі ўжо амаль на палову. У цэлым жа штат ваенных чыноўнікаў, адказных нядаўна за кветкі гасцям, выкананне гімну, цырымоній на плошчах і ў залах, а таксама іншых падстрахоўваючых палкоўнікаў, зменшыўся прыкладна на 30%.

## Бяздомныя афіцэры

Практычна кожны пяты афіцэр і прапаршчык беларускіх узброеных сіл не мае сёння ўласнага жылля. Колькасць бескватэрных ваеннаслужачых складае ў краіне каля 10 тысяч чалавек. Асабліва цяжкія справы з атрыманнем жылля ў буйных гарадах, у прыватнасці ў Менску, дзе спісы чаргавікоў расцягнуліся на многія сотні чалавек. Не бачачы перспектывы абзавесціся ўласным жыллём, некаторыя афіцэры пішуць рапарты аб звальненне з радоў узброеных сіл, спадзеючыся зарабіць грошы на кватэру.

## Усюды добра, але...

На Гомельшчыне расце колькасць т.зв. самасёлаў — людзей, якія вяртаюцца ў родныя вёскі ў чарнобыльскія зоны першачарговага адсялення. У вёсках Савічы і Сабалі Брагінскага раёна вярнуліся з чыстых зон ужо 150 сем'яў. Ажываюць некаторыя пустыя вёсачкі Буда-Кашалёўскага, Чачэрскага, Нараўлянскага і іншых раёнаў. Перад мясцовымі ўладамі паўстала задача забяспечыць людзей таварамі першай неабходнасці, стварыць новыя аўтобусныя маршруты, арганізаваць медыцынскае абслугоўванне.

## Шок у МУС

У Міністэрстве ўнутраных спраў, якое ўзначальвае Юрый Захаранка, прымаючыя паведамленне са Жлобіна ледзь не атрымалі шок: „Пад машынай Захаранкі ўзарвалася нявызначанае ўстройства". Міністр на шчасце цэлы і здаровы. Пацярпеў яго цёзка — прадпрымальнік, машына якога была сур'ёзна пашкоджана.

## Рост колькасці абортаў

Колькасць абортаў у Гомелі амаль у тры разы перавысіла колькасць нованароджаных. Гэты сумны вынік, на думку сацыёлагаў, мае тры асноўныя прычыны: нізкая культура выхавання моладзі, адсутнасць супрацьзачаткавых сродкаў і, галоўнае, нежаданне людзей абцяжарваць свае сем'і лішнім ротам.




### Селянін працуе

Селянін працуе,
Такі яго лёс.
Як ніхто гаруе,
Усё ён перанёс.
Хлеб так здабывае
У змаганні, поце.
Працу паважае
У жары і слоце.
Хоць не мае славы,
Просты, бо мужык,
Сумны, часта бравы,
Да ўсяго прывык.
Ці будуць з павагай
Бачыць селяніна,
З гонарам, з развагай,
Так як сем'яніна?
Хоць наўрад ці прыйдзе
Такі час „ацэнкі"!..
У якім мы відзе?
Наш народ слабенькі.
Ехалі і едуць
На нашай спіне.
Рознае нам мелюць.
Па якой віне?
Адзін Бог ацэніць
(Любіць нас аддана)
Слова Ён не зменіць,
Верна, без абману.
Хоць была засуха,
Даў нам ураджай.
То Хрыста заслуга;
Думай, параўнай...
А Ён — Дух Святы
У кожным месцы свету.
Сёстры і браты,
Бог у сэрцы — мэта.

**Мікалай Панфілюк**

## У Бельску рэстараны адкрыты да поўначы

Восьмая сесія Гарадской рады (9 лістапада) для назіральнікаў пачалася дрэнна. Адхіленне двух пунктаў павесткі дня — аб месцах продажу алкаголю і аб кадравых зменах у камісіях Рады — зрабіла сход менш цікавым.

Пасля некалькіх запытанняў радных, а то аб асвятленні якойсьці перыферыйнай вуліцы, а то аб фрагменце знішчанага тратуара, справаздачу з дзейнасці Управы горада даваў бурмістр Андрэй Сцепанюк. Была гэта першая справаздача новага бурмістра перад Радай, ахоплівала кароткі перыяд (ад 16 верасня) і не выклікала ніякага рознагалосся.

Затым гарадскі архітэктар Тадэуш Ляшчынскі паўтары гадзіны прадстаўляў План добраўпарадкавання прасторы горада. План ствараўся на працягу трох з паловаю гадоў і калі будзе адкінуты на гэтай сесіі, аргументаваў архітэктар, працу давядзецца пачаць нанава. Аргументы, відаць, былі пераканаўчыя, бо ніхто не галасаваў супраць плана, толькі дзве асобы ўстрымаліся ад голасу і аж 24 радных прагаласавалі за яго прыняццё. План будзе спрыяць захаванню гарадской зелені, дазволіць перабудаваць камунікацыйныя шляхі, што праходзяць праз Бельск і, найважнейшае, у значнай ступені аблегчыць працэдуру прымання рашэнняў у гарадскім будаўніцтве.

Даволі прынцыповая дыскусія ўзнікла між раднымі, калі ўзяліся абмяркоўваць гадзіны працы гастранамічных пунктаў, кавярняў і рэстаранаў. Большасці жыхароў 30-тысячнага Бельска пэўна ўсё роўна, ці рэстараны ў іх будуць зачыняцца ў 10 вечара, ці будуць адкрыты ўсю ноч, але прымаючы рашэнне ў гэтай канкрэтнай справе, радныя паказалі сваё разуменне механізмаў свабоднага рынку. Хаця многа ў дыскусіі было галасоў, што не трэба перашкаджаць людзям працаваць, што ўсё вырашыць здаровая канкурэнцыя, то ўсё-ткі Рада пастанавіла, што кавярні і рэстараны Бельска павінны зачыняцца апоўначы. Госці ў сярэдзіне могуць гуляць і да раніцы, абы не заходзілі новыя, якія тое і робяць, што „ходзяць глыбокай ноччу з аднаго месца ў другое з песняй на ўсю глотку" (радны Самоцік).

Яшчэ адзін пункт дыскусіі мог стацца цікавым. Гэта зацвярджэнне новых камандзіровачных аплат радным за ўдзел у сесіях і пасяджэннях камісій. На жаль, радныя, як бы змовіліся зрабіць гэтую якраз сесію нуднай, і грашовыя справы перанеслі на наступную.

**М. В.**

## Пушча яшчэ жыве і расце...

Белавежская пушча гіне! — б'юць трывогу эколагі. Калі не спыніць высечку дрэў, то праз 10 гадоў можа перастаць існаваць адзіны ў Еўропе натуральны нізінны лес, які ўжо мае каля 10 тысяч гадоў. Белавежская пушча займае тэрыторыю 1 250 квадратных кіламетраў, з чаго 580 знаходзіцца ў Польшчы. У Беларусі ўся пушча пад аховай, тады калі ў Польшчы толькі рэзерват плошчаю ў 47 кв. кіламетраў. Гэты кавалачак лесу ў 1977 годзе ЮНЕСКА прызнала біясферным запаведнікам, а два гады пазней занесла ў Сусветны спісак наследства. Аднак высечка лесу, якая праводзіцца на польскім баку, парушае экасістэму ахоўваемага абшару. Дрывасекі, высякаючы 300-гадовыя дрэвы, набліжаюцца да рэзервата. Меншае натуральны лес, які рос тысячагоддзямі. Хаця вядуцца планавыя пасадкі новых дрэў, аднак яны не ў змозе аднавіць тое, што было перад высечкай. Разам са старымі дрэвамі гіне і звязанае з імі жыццё: насякомыя, грыбы, травы. Высечка разрывае лучнасць пакаленняў ляснога жыцця і калі яе не спыніць, дык незадоўга Белавежская пушча астанецца толькі на карце.

**Андрэй Гаўрылюк**

## „ХОВАЙ БОЖА"

Гэта была любімая прымаўка дзядзькі Сідара з Дубіч-Царкоўных, далейшага майго сваяка. Жыў ён да вайны багата, меў многа зямлі і вялікую сям'ю. Аднойчы здарылася вось такая гісторыя: на панадворку Сідара, калі мае дзядзькі Ванька і Мішка скончылі трачаванне (рэзанне драўніны), дайшло да вострай спрэчкі, у выніку якой дзядзька Ванька дастаў ад Сідара дубчаком у патыліцу. Мой дзядзька аднак не зваліўся з ног, бо быў вельмі дужы, „пакланіўся" толькі, уцякаючы. Да далейшай бойкі не дайшло, бо сваякі ж. Неўзабаве дзядзька Ванька ажаніўся з унучкай Сідара, Марыськай — прыгажуняй на цэлы прыход. Сам Сідар быў частым госцем у нашай хаце. Заўсёды хваліў ён пачастунак, прыгаворваючы: „О, ховай Божэ, якая смачная каўбаса, гарэлка..."; да сябе аднак у госці не запрашаў, бо быў вельмі скупы. Я цяпер часам, калі плачу пенсіянерам, гавару „Ховай Божэ". „О, ты пераняў ад Сідара гэтае слоўца", — адказваюць. Што ж, калі нешта добрае, варта пераняць.

**Мікалай Панфілюк**

## РЭНТА — АЛЕ ЗА ЯКУЮ ЦАНУ

**(з судовага; прозвішчы зменены)**

Рыгор падаў у суд на Амяльяна. Каб адсудзіць сваю гаспадарку. Суд, хоць і адбыў два пасяджэнні, але справу, лічы, не скрануў з месца.

Рыгор жыве ў Л. на хутары, дзе мае (або, лепш сказаць, меў) гаспадарку. Як і многіх пажылых сялян, мучыла яго адна праблема — атрымліваў ужо частковую рэнту, але ж неяк трэба назваць поўную. Законы сацыяльнага страхавання ставяць аднак у дачыненні да сялян адно патрабаванне — зямлю трэба здаць у дзяржаўны фонд або перадаць наступніку. З пераемнікам, у выпадку Рыгора, быццам, і не павінна было быць клопату. Чацвёра дзяцей, а ўнукаў — з дзесятак. І калі б, як мяркуе ён сёння, павёў справу ў гэты бок — не было б пра што і гаварыць.

Так не сталася. Не вельмі вядома за што, але дзеці рассварыліся з бацькам і заявілі, што не хочуць мець ні да яго, ні да ягонай зямлі дачынення. Жылі ў горадзе. Рыгор сваіх захадаў у справе рэнты не кінуў і, як мяркуюць цяпер аднавяскоўцы з Л., рашыўся на шаленства. Завёў суполку з Амяльянам — жыхарам Л.

З Амяльянам пад адным дахам жыў яшчэ сын з жонкай. І вось Амяльянава нявестка аказалася нават далёкай сваячкай для Рыгора — добрая вараўжба для цэлага інтарэсу. Жыхары Л. на гэтыя ўзаемныя падыходы Амяльяна і Рыгора не звярнулі ўвагу. Падобныя выпадкі ўжо бывалі і належалі да вясковай нармальнасці. Бывала, што гаспадар у гадах дзеля атрымання поўнай рэнты аддаваў частку зямлі малодшаму суседу ў арэнду. Выглядала, што падобным чынам адбудзецца і цяпер.

Рыгор і Амяльян дамовіліся, што гэты першы перадасць перад натарыусам сваю гаспадарку другому, а ў сапраўднасці ўсё застанецца, як і было — Рыгор далей будзе абрабляць сваю зямлю. І атрымліваць рэнту. Усё здбылося, як задумалі. Паколькі, аднак, Рыгор перадаваў сваю гаспадарку чужому чалавеку, натарыяльнаму акту была нададзена форма продажу-куплі. Амяльян быццам бы плаціў за зямлю сто мільёнаў злотых. Усё, як дамовіліся. Справы пайшлі на лад, але ненадоўга...

Яшчэ восенню гэтага года Амяльян стаў гарадзіць новае сваё поле. І то як — пакінуў Рыгору толькі панадворак, каб яму было як схадзіць у срачык. Але каб звазіць малако ў вясковую малачарню, трэба было ўжо зрабіць добры круг. Таксама каб выгнаць карову на луг, Рыгор мусіў гнаць яе за кіламетр дарогі. А Амяльян стаў рыхтавацца да асенняй работы на новым участку — зааравў што трэба, вывез угнаенні...

Вяскоўцы пранюхалі да чаго ідзе паміж Рыгорам і Амяльянам. Сталі гэтаму другому адмаўляць, калі хацеў ён пазычыць якую машыну.

— Што ты такое вычаўпаеш? — пыталі Амяльяна.

— Гэ-гэ-гэ, гэта маё, — казаў ім і далей рабіў сваё.

Справа наканец трапіла ў суд. На справу падаў Рыгор.

— Людзі, пасведчыце, — прасіў ён вяскоўцаў, — што ніякіх грошай ён мне не заплаціў.

Адказ быў адзін — цяпер табе патрэбныя сведкі, а чаму ж ты пра іх не падумаў, калі перапісваў зямлю? Хто цяпер і што мае пасведчыць?

Спахапіліся таксама і Рыгоравы дзеці, што прападае іхняя бацькаўшчына. Суд стаў даходзіць, ці Амяльян сапраўды заплаціў за зямлю сто мільёнаў.

— Меў ашчаднасці, — даказваў Амяльян, — сын яшчэ далажыў і маці. Сабралася на сто.

Усё быццам бы і пасавала, але ж закранутыя нахабствам людзі даказалі, што Амяльян мінулага года купіў самаход і пляц у горадзе пад будову дома. Актуальна збірае патрэбны матэрыял. Адкуль на гэта ўсё ўзяць у такі кароткі прамежак часу? Натарыус у справе грошай сведкам быць не можа — гэта не яго справа, ён толькі пры падпісванні акта пытае, ці заплачана і ці ёсць двухбаковая згода.

Суд разблытвае справу. Усё гэта з-за чалавечай дурноты і нахабства, — кажуць жыхары Л. Прысуд, які бы ён не быў, справядлівасці не зробіць. Калі Рыгорава зямля застанецца на Амяльяне, чалавеку станецца крыўда. Калі ж суд верне гэту зямлю Рыгору — значыць што натарыус, перапіс і ўся гэта дзяржава нічога не вартыя.

**А. Максімюк**

## PADZIAKA

W związku z bezinteresowną wielkoduszną pomocą okazaną dla przebywających w Ośrodku Wypoczynkowym w Starzynie dzieciom białoruskim z Soligorska, Przewodniczący Rady Gminy w Dubiczach Cerkiewnych składa najserdeczniejsze podziękowanie sponsorom:

1. Jego Ekscelencja Najprzewielebniejszy SAWA, Prawosławny Arcybiskup Białostocko-Gdański.
2. Pan Poseł na Sejm RP Stanisław Maliszewski (SLD).
3. Ks. Witalis Gawryluk, proboszcz Parafii Prawosławnej w Dubiczach Cerkiewnych.
4. Ks. dziekan Mikołaj Kiełbaszewski, Proboszcz Parafii Prawosławnej w Kleszczelach.
5. Burmistrz Miasta i Gminy w Kleszczelach, Pan Aleksander Sielicki.
6. Gminny Ośrodek Kultury w Kleszczelach.
7. Szkoła Podstawowa w Kleszczelach.
8. Pan Mirosław Kułak, właściciel firmy z Siedlec.
9. Liceum Ogólnokształcące z białoruskim językiem nauczania w Hajnówce.
10. Spółka "Awers" Panów Pietroczuka i Fedoruka z Hajnówki.
11. Pan Michał Lewczuk z Wólki Terechowskiej.
12. Panowie Jan Surel i Mikołaj Ławrynowicz, radni Rady Gminy w Dubiczach Cerkiewnych.
13. Gminny Ośrodek Kultury w Dubiczach Cerkiewnych.
14. Muzeum Białoruskie w Hajnówce.
15. Pan Włodzimierz Kuptel, inspektor Nadleśnictwa w Hajnówce.
16. Przedsiębiorstwo Wielobranżowe Sergiusza Niczyporuka w Grabowcu.
17. Strażnica Straży Granicznej w Czeremsze pod dowództwem kpt. Zbigniewa Piotrowskiego.
18. Pani Maria Niczyporuk — Grabowiec.
19. BTSK w Hajnówce.

Szanowni Państwo swą postawą i zachowaniem zaświadczyliście, że los okrutnie przez życie skrzywdzonych dzieci nie jest Wam obojętny. Swym czynem dowiedliście, że człowiek człowiekowi jest w stanie pomóc nie z nakazu, nie na hasło, nie w interesie, a z naturalnego odruchu serca, z pobudek, które świadczą, że solidarność ludzka w obliczu nieszczęścia dotykającego kogoś z nas nie zna granic państwowych, narodowościowych, wyznaniowych czy rasowych. Nie zna również granic wielkości tej pomocy.

W imieniu własnym i dzieci z Soligorska kłaniam się Państwu do ziemi i życzę abyście Państwo zawsze mieli możliwość pomagać w życiu potrzebującym. Niech Bóg Wam stokrotnie to wynagrodzi. Zapewniam Państwa, że czyn Wasz przeobraził poglądy i dusze wielu ludzi. Stał się ziarnem dobrym zasianym na dobrym polu. Wierzę, że nie zagłuszy go chwast bezduszności, obojętności i znieczulicy.

Jednocześnie informujemy Szanownych Państwa i Czytelników, że do Starzyny przyjadą kolejne grupy dzieci dotkniętych skutkami skażenia chemicznego i radioaktywnego, dzieci, dla których każdy odruch życzliwości okazanej przez Państwo jest nieocenionym lekarstwem i źródłem radości. Radości tej bowiem los im poskąpił z przyczyny ogólnie znanej.

Prosimy kierować pomoc finansową na nr konta BS w Kleszczelach 905552-143-3211/2 z dopiskiem "Dzieciom z Białorusi".

Osoby, które w inny niż finansowy sposób chcą sponsorować pobyt dzieci prosimy kontaktować się z Z-cą Wójta Gminy Dubicze Cerkiewne, tel. 26 w godz. 8.30 — 16.00 lub z Przewodniczącym Rady Sergiuszem Niczyporukiem, tel. 2 Dubicze Cerkiewne o każdej porze.

Dubicze Cerkiewne, dn. 07.11.1994 r.

PRZEWODNICZĄCY RADY GMINY
w Dubiczach Cerkiewnych
**Sergiusz Niczyporuk**

# Дзень Герояў

*Працяг са стар. 1*

стрэл. У Супраслі арыштаваны быў і пабіты іншы афіцэр, штабс-капітан Хомчык.

Захапіўшы Гродна, палякі спачатку наладзілі супрацоўніцтва з беларусамі, але ў чэрвені 1919 г. разброілі ўсе беларускія часці. М. Дзямідаў быў арыштаваны, а пад канец ліпеня інтэрнаваны ў беластоцкім лагеры „Стацыя Роздзельча"

Звольнены з лагера ўвосень 1919 г., увайшоў у Беларускую вайсковую камісію, зацверджаную неўзабаве Ю. Пілсудскім. Вясною 1920 г. М. Дзямідаў накіраваны быў у беларускую афіцэрскую школу, якая стваралася паводле ўказа Начальніка Польскай Дзяржавы.

Летам 1920 г., у час бальшавіцкага паходу на Варшаву, М. Дзямідаў паступіў у армію ген. Булак-Балаховіча. У гэтай арміі арганізаваў асобны беларускі батальён, які ўдзельнічаў у паходзе Булак-Балаховіча на Палессе восенню 1920 г.

Беларускі батальён М. Дзямідава на самай справе быў беластоцкім батальёнам, паколькі складалі яго добраахвотнікі з Беласточчыны. Дзямідаў скарыстаў тут відавочна арганізацыю, створаную ім яшчэ на пачатку 1919 г.

Беластоцкі беларускі батальён пад камандаваннем М. Дзямідава вылучыўся выключнай стойкасцю ў баях над Прыпяццю і Дняпром. У вырашальны момант, калі бальшавікі акружылі ядро войскаў ген. Булак-Балаховіча і камандзір арміі амаль не папаў у палон, батальён Дзямідава разам з рэшткамі Смаленскага палка пераправіўся праз Прыпяць у вельмі цяжкіх абставінах і выратаваў таварышаў.

Пасля адступлення арміі ген. Булак-Балаховіча на польскую тэрыторыю, М. Дзямідаў не здаўся і са сваім батальёнам у 400-600 чалавек, з двума гарматамі і чатырма кулямётамі застаўся ў нейтральнай зоне, працягваючы змаганне з бальшавікамі.

28 лістапада М. Дзямідаў абвясціў, што „давераны яму батальён на заклік не пакідаць родную зямлю і бараніць яе да апошняга, нягледзячы на поўны адыход рускай арміі, з энтузіязмам прывітаў гэтую вестку". Відавочна справа ідзе пра вестку аб уступленні ў бой Слуцкай брыгады, якое адбылося на дзень раней.

29 лістапада батальён разбіў бальшавіцкі 40 Стралковы полк, страчваючы сам 4 забітых і 10 раненых. За надзвычайную храбрасць павышаныя ў званні былі малодшы лейтэнант Казлоўскі і штабс-капітан Кастыцэвіч. Тут два прозвішчы і дзве загадкі. Лейтэнант Казлоўскі — гэта магчыма пазнейшы стваральнік Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі Уладзіслаў Казлоўскі, ураджэнец Сакольшчыны. Штабс-капітан Кастыцэвіч магчыма тоесны з падпалкоўнікам Кастыцэвічам, які ў 1919 г. служыў у Гродзенскім палку. Так ці інакш, гэта безумоўна адзін з сыноў бельскага святара, а. Васіля Кастыцэвіча, з якіх трох старэйшых было афіцэрамі расейскай арміі ў I сусветную вайну. Не можна выключыць нават таго, што пад камандаваннем М. Дзямідава служыў сам Яраслаў Кастыцэвіч. Пакуль што немагчыма гэта ўстанавіць, бо імя падпалкоўніка, ні штабс-капітана Кастыцэвіча ў вядомых дакументах не падаецца.

Атрад Міколы Дзямідава яшчэ на пачатку снежня знаходзіўся ў нейтральнай зоне між Сянкевічамі, Ленінам і Жыткавічамі. М. Дзямідаў прапанаваў польскаму камандаванню, каб у выпадку пераходу яго батальёна на польскі бок далучыць яго да Беластоцкага палка 18 Пяхотнай дывізіі. Каб аформіць гэты пераход, падаўся ён у Варшаву, спадзеючыся, што ягоны атрад будзе мець магчымасць надалей ваяваць з бальшавікамі. Ягоныя разлікі не апраўдаліся. Беларускія вайсковыя фарміраванні, як балахоўскія, так і слуцкія, былі інтэрнаваны. Некаторыя беларускія вайскоўцы папалі ў гэты самы беластоцкі лагер „Стацыя Роздзельча", з якога нядаўна выйшлі.

Лёс М. Дзямідава ў гэты час невядомы. У 1922 г. кандыдаваў ён на пасла ў польскі Сейм ад Беластоцкай акругі. На пачатку 1923 г. разам з іншымі беларускімі дзеячамі быў выселены з Польшчы і пераехаў у Дзвінск, у Латвію. Там працаваў у школьніцтве і ў беларускіх грамадскіх арганізацыях. Нейкі час прабываў у Коўне, а пасля вярнуўся ў Латвію і асеў у Рызе, дзе разгарнуў шырокую беларускую культурна-нацыянальную дзейнасць.

Пасля захопу Латвіі саветамі ў 1940 годзе М. Дзямідаў быў арыштаваны і нейкі час зняволены ў Маскве ў турме на Лубянцы, з якой усё-такі быў звольнены. Вярнуўся ў Латвію і пасля захопу гэтай краіны немцамі дапамагаў арганізаваць беларускае школьніцтва ў Латгаліі.

У 1943 г. пераехаў у Ліду, дзе ў вельмі цяжкіх абставінах (на Лідчыне панавала польская Армія Краёва) працаваў акруговым школьным інспектарам. Арганізаваў таксама батальён беларускай Самааховы.

Пад канец 1944 г. М. Дзямідаў апынуўся ў Берліне і назначаны быў намеснікам камандзіра падафіцэрскіх курсаў у I Кадравым батальёне Беларускай краёвай абароны. Неўзабаве па ўласнаму жаданню быў звольнены з войска, але зараз жа зноў прыняты і залічаны ў Асобую групу рэзерва беларускіх вайскоўцаў пры Галоўным кіраўніцтве вайсковых спраў Беларускай Цэнтральнай Рады. Зараз жа быў звольнены з таго ж рэзерва і прыкамандзіраваны часова да ГКВС на працу ў характары ўпаўнаважанага па справах апекі над сем'ямі беларускіх вайскоўцаў.

Як відаць, БЦР не надта шанавала афіцэра, з якім у той час толькі капітан Антон Сокал-Кутылоўскі мог раўняцца баявымі дасягненнямі ў змаганні за беларускую справу. Не абышлося тут, відаць, без палітыкі, якой нюансы мне невядомыя, бо гэтым перыядам гісторыі Беларусі я сам не займаюся.

Пасля капітуляцыі Нямеччыны М. Дзямідаў прабываў у французскай акупацыйнай зоне, дзе быў адным з ініцыятараў склікання Сабору Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Канстанцы ў 1948 г. і ўзнаўлення БАПЦ пасля адыходу беларускага епіскапату да Рускай Зарубежнай Царквы.

У 1950 г. М. Дзямідаў пераехаў у ЗША і пасяліўся ў Чыкага. Там стаў сябрам Беларуска-амерыканскай нацыянальнай рады, створанай падчас II сусветнай вайны дзеля прадстаўніцтва беларусаў у Амерыцы і падтрымкі краіны ў змаганні з гітлерызмам. Дзеячы Б-АНР прынялі М. Дзямідава, хаця змагаўся якраз на другім баку. Язэп Варонка і Янка Чарапук (ураджэнец Сакольшчыны) — кіраўнікі Б-АНР, працавалі разам з М. Дзямідавым у 1918—1919 гадах ды ведалі, як складанымі бываюць беларускія справы. У той жа час яны самі былі на нямецкім баку.

Пасля нейкага часу М. Дзямідаў уступіў у Згуртаванне беларусаў штата Ілінойс, прымаючы надалей актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Толькі ветэранам атрымаў ён ранг генерала. Памёр у 1967 г.

Успамінаючы Міколу Дзямідава, помніць будзем перш за ўсё пра подзвіг яго батальёна восенню 1920 г. Гераічны паход некалькіх соцень добраахвотнікаў з Беласточчыны ў глыбіню Беларусі сведчыць аб надзвычайнай любові да Бацькаўшчыны, за якую яны гатовы былі загінуць як над Нарвай, так і над Дняпром.

Паводле дадзеных польскай разведкі, у дзень 27 лістапада ваявалі з бальшавікамі 1200 случакоў, 200 жаўнераў палкоўніка Таалат-Келпша і 400 беластачан. Гэтых лікаў хопіць, каб усвядоміць іх уклад у змаганне за БНР.

Думаю, пара ўжо ўшанаваць іхнюю памяць адпаведным помнікам. Найлепшым дзеля гэтага месцам з'яўляецца тэрыторыя былога лагера „Стацыя Роздзельча" на Петрашах, дзе зняволены быў Мікола Дзямідаў і сотні беларускіх патрыётаў, сярод якіх смерць сабрала страшэнная жніво.

**Алег Латышонак**

# (НЕ) СВАБОДНЫЯ ЦЭНЫ

Падводзячы вынікі першых ста дзён прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі, ягоны прэс-сакратар Аляксандр Фядута за поспех палічыў вяртанне эканомікі краіны на сацыяльна арыентаваны шлях. Як цяжка справіцца з ажыццяўленнем гэтай ідэі ва ўмовах гаспадарчай трансфармацыі, калі падае вытворчасць, растуць цэны і гуляе інфляцыя, можна было пераканацца ў пачатку гэтага месяца. Менавіта з 1 лістапада рушыў чарговы віток цэн на харчовыя артыкулы і тавары першай неабходнасці, што пры мізэрных зарплатах абрынулася невыносным цяжарам на грамадства. Калі адны міністэрствы адобрылі павышэнне, іншыя сталі біць трывогу, што мільёну пенсіянерам трэба будзе ісці на паперць, паколькі не будзе ім як пражыць. Падняўся шум на ўсю рэспубліку.

У той час прэзідэнт краіны праходзіў за мяжой курс лячэння. Даведаўшыся аб мінорных настроях, вярнуўся ён датэрмінова ў Менск і адразу выступіў па нацыянальным радыё і тэлебачанні. Выступленне прэзідэнта вызначалася наступальнасцю і рэзкай крытычнай афарбоўкай. Кіраўнік дзяржавы крытычна ацаніў значнае павышэнне цэн на прадукты і тавары першай неабходнасці, што было растлумачана ростам курсу замежнай валюты да беларускага рубля. У сувязі з гэтым прэзідэнт нагадаў аб сваім даручэнні прэм'ер-міністру і старшыні Нацыянальнага банка прыняць меры ў накірунку стабілізацыі рубля, што зроблена не было. На другі дзень адбылося пашыранае пасяджэнне Кабінета Міністраў, на якім прэзідэнт таксама выступіў вельмі востра. Павышэнне цэн палічыў ён падрыўной работай, з якой цешацца фашысты, бэнээфаўцы, гекачэпісты, кебічысты і іншыя, гатовыя вырваць ягонай каманде ўладу з рук. Папракаў ён сваіх міністраў, грымеў на вальнадумную прэсу і свабодныя прафсаюзы, якія толькі бударажаць грамадства. У дыскусіі найбольш змястоўна, па-мойму, выступіў старшыня Нацбанка, які нагадаў, што стабілізацыю беларускага рубля нельга зрабіць шляхам друкавання неатаваранных грошай, а для распрацавання рэальнага бюджэту трэба збалансаваць эканоміку, а гэтае немагчыма выканаць з-за нявызначаных да канца адносін з Расеяй (якая надалей карыстаецца бясплатным транзітам і дармовымі ваеннымі базамі).

У выніку прэзідэнт вырашыў неадкладна вярнуць усе цэны на ўзровень з 1 лістапада, а за непаслушэнства і невыкананне гэтага распараджэння прыгразіў кіраўнікам гандлю зняццём з пастоў і нават арыштам. Кабінет Міністраў у сваю чаргу пастанавіў павысіць з 1 снежня памер кампенсацыі для пенсіянераў з 8,5 да 20 тысяч рублёў. У напалоханага народа адлягло ад душы. На як доўга?..

Ва ўмовах свабоднага рынку, да якога імкнецца Беларусь, цэны павінны ўтварацца па эканамічных правілах, а не вызначацца чыноўнікамі, а дзяржава павінна стварыць сістэму аховы немаёмных. Для гэтага патрэбна гаспадарчая самастойнасць дзяржавы і партнёрскія, а не каланіяльныя, адносіны з суседнімі краінамі. Найважнейшымі для Беларусі з'яўляюцца адносіны з Расеяй. Будуць яны ўстаноўлены ў міждзяржаўным дагаворы, які неўзабаве мае быць падпісаны. Дарэчы, Аляксандр Лукашэнка вяртаўся з Сочы ў Менск цераз Маскву, дзе меў гутарку з прэм'ер-міністрам Расейскай Федэрацыі.

**Віталь Луба**

# НОВАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА

Ад нашых знакамітых дзеячаў не раз ужо прыйшлося мне выслухаць сотні слоў жалю, што дрэнна пішам пра першага прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку. Думаў я нават больш не кранаць Бацьку Беларускага Народа, але не стрымаў, выслухаўшы яго прамову 11 лістапада ў перадачы Беларускага тэлебачання „Панарама". Прэзідэнт толькі што вярнуўся з курорта ў Сочы, дзе падмацоўваў сваё, аслабленае трохмесячным кіраваннем, цела і зараз жа выступіў перад народам.

Грамадзяне Польшчы ўжо нават прывыклі, што прэзідэнт РП час ад часу скажа штосьці вясёлае, развесяліць грамадства. А гэта вельмі важнае, асабліва цяпер, калі кабарэ перажывае нейкі крызіс. Але спадар Лукашэнка мог не аднаго не толькі развесяліць але і прывесці ў істэрычны рогат. Асабліва тады, калі гаварыў пра цэны і эканоміку.

Вяртаецца тады Прэзідэнт з курорта пасля двухтыднёвай адсутнасці ў Менск і не пазнае сваё краіны. Без гаспадара ўзніклі такія „беспарадкі", што Бацька Народа аж за галаву схапіўся і вырашыў аб усім расказаць грамадству і адначасова прадставіць свае намеры навесці парадак, дабрабыт і справядлівасць. Што тады здарылася ў Беларусі на пачатку лістапада? Што так раз'юшыла спадара Лукашэнку?

Недзе пры канцы кастрычніка Прэзідэнт вырашыў павысіць на 100 працэнтаў прыбытак пенсіянерам і ўсім, хто карыстаецца сацыяльнай дапамогай дзяржавы. Павялічаную пенсію зацікаўленыя мелі атрымаць толькі пры канцы лістапада, а некаторыя на пачатку снежня. Але рынак, як вядома, дзейнічае паводле попыту і прапанавання. І калі падае прадукцыя і расце колькасць грошай, то робіцца ні што іншае як інфляцыя, а тады хутка ўзрастаюць цэны. Нічога іншага не здарылася і ў Беларусі. Калі Лукашэнка вярнуўся з курорта, заўважыў, што падчас яго адсутнасці ў Беларусі цэны выраслі на 50, а некаторых прадуктаў нават на 200 працэнтаў. Бацька Народа ўсхваляваўся не на жарты. Доўга гаварыў пра сабатажнікаў, якія праігнаравалі загад Прэзідэнта, каб не павышаць цэны больш, чым на 18 працэнтаў, пра змову „г.зв. нацыяналістаў і г.зв. камуністаў" супраць Галавы Дзяржавы. Урэшце праз пасрэдніцтва тэлебачання загадаў кіраўнікам гандлёвых устаноў вярнуць цэны на ўзровень з 1 лістапада. Паводле слоў Прэзідэнта ў панядзелак, 14 лістапада, кантролем выканання ягонага ўказа мелі займацца міліцыянеры і супрацоўнікі КДБ. Тых, якія не выканаюць распараджэння Бацькі Народа, абяцаў ён здымаць з пастоў і арыштоўваць. Кабарэ заключаецца ў тым, што Прэзідэнт не пытаецца па колькі ўласнік крамы купіў тавар, ён толькі вызначае цану, па якой трэба яго прадаць.

Магчыма, што спадар Лукашэнка падчас лячэння ў Сочы чытаў вядомы раман „Як гартавалася сталь" і пад яго ўплывам пачаў выконваць абавязкі найвышэйшага ўрадніка Беларусі. Надзея толькі ў тым, што можа нехта з сяброў Прэзідэнта здолее пераканаць яго, што маем цяпер 1994 год і камсамольскі рамантызм 1918 года — гэта толькі гісторыя.

Аляксандр Лукашэнка безумоўна хоча дабра для свайго народа і дзяржавы, але няма ніякіх шанцаў, што ён менавіта зменіць штосьці на лепшае. Выступленне Прэзідэнта ад 11 лістапада г.г. паказала яшчэ раз, што яго ўяўленні пра гаспадарку затрымаліся на ўзроўні старшыні калгаса. А калгасы існавалі толькі дзякуючы дзяржаўнай датацыі. Ніхто аднак не хоча датаваць дзяржаву Беларусь. Расея адмовілася. Іншых ахвотных таксама няма. Але ў тым адначасова заключаецца і шанц для Беларусі. Урэшце трэба будзе „браць свой лёс у свае рукі".

**Яўген Мірановіч**

# Школа „на Мазурах"

4 лістапада г.г. адбылося афіцыйнае адкрыццё Пачатковай школы н-р 6 у Гайнаўцы. З гэтай нагоды школу наведалі шматлікія госці — адміністратары, святары, бізнесмены. Прысутнічаў выконваючы абавязкі куратара асветы Тадэуш Калюта. Яго выступленне было сугучнае з характарам мерапрыемства. Падзякаваў ён уладам горада за дапамогу ў пабудове школьнага будынка. Загадаў сённяшнім гаспадарам шанаваць і даглядаць яго.

— Róbcie wszystko, aby następne roczniki cieszyły się z tego budynku, jak wy.

Пажадаў таксама ўсім добрага здароўя і асабліва прывітаў моладзь.

— Życzę Wam samych piątek, bo byłoby wstydem otrzymywać inne oceny w tak pięknej szkole, — закончыў ён.

Гаспадыня мерапрыемства — дырэктар Ірэна Кулачэўская, таксама падзякавала ўсім гасцям за прысутнасць і добрыя пажаданні.

Пабудова школы н-р 6 дагэтуль каштавала 19 мільярдаў злотых. Большасць фінансавых сродкаў забяспечыла Кураторыя асветы. 7 мільярдаў дабавіла Гарадская ўправа. Зараз тут 627 вучняў. Школа працуе на дзве змены. Далей вядуцца інтэнсіўныя працы над завяршэннем другога павільёна.

Апрача прывітальна-інфармацыйнай прамовы і сімвалічнага разразання стужкі была таксама рэлігійна-патрыятычная частка.

Як першы малітву пачаў настаяцель гайнаўскага Праваслаўнага прыхода а. Антон Дзевятоўскі. Пасля малітвы „Цару нябесны" дзеткі пад кірункам катэхета праспявалі рэлігійную песню.

Далей 15 хвілін маліліся католікі. І хаця ў гэтай школе яны — меншасць (сярод вучняў 70% гэта праваслаўныя, а 30% — католікі; сярод настаўнікаў 80% — праваслаўныя, 20% — католікі), рэлігійную частку прадставілі гучна і па-сучаснаму. У духу экуменізму, здавалася б, будзе ісці і далей гэтае мерапрыемства.

Мастацкая частка, якую падрыхтавалі настаўніцы Леаніда Назарка і Тамара Падсядлік была прысвечана Святу Незалежнасці Польшчы (11.XI.). Дазволю сабе пералічыць тэксты, якія дэкламаваліся або спяваліся на т.зв. акадэміі: „Marsz, Polonia", „Nasz Kościuszko chwat nad chwaty", „Jeszcze Polska nie umarła", „Oto dziś dzień krwi i chwały", „Hej, strzelcy", „Rota", „Piechota", „Maszerują strzelcy", „Synkowie moi, poszedłem na bój", „Ojczyzno ma, tyle razy we krwi skąpana", „Elegia o chłopcu polskim", „Biały krzyż", „To jest Polska", „Dalej, kto Polak, chwytaj za broń". Уражанне рабіла таксама мілітарнае афармленне мерапрыемства. У шарэнзе стаялі „на зважай" хлапчукі ў вайсковых формах (цікава, адкуль такая вялікая колькасць малых памераў мундзіраў?). Натхнёна праспявалі яны пры дапамозе гукаўзмацняльнікаў „My, pierwsza brygada". Акадэмія закончылася сучасным тэкстам на мелодыю вайсковай „Rezerwy".

*Jak długo w sercach naszych*
*choć kropla polskiej krwi*
*tak długo miłość nasza*
*będzie do ciebie żyć.*

Выступленне вельмі падабалася многім слухачам. Пасыпаліся бурныя апладысменты.

* * *

Дзве траціны настаўнікаў беларускай мовы патрабуе метадычнай і мерытарычнай дапамогі.

— Патрэбны нам інспектар, які даглядаў бы беларускае школьніцтва, — падымаў трывогу на канферэнцыі, прысвечанай беларускаму школьніцтву, настаўнік Яўген Вапа.

Яго словы паўтаралі многія. Гэта перш за ўсё кіравалася ў бок школы н-р 6. Там пасля шматлікіх стараннаў адрадзілася навучанне гэтага прадмета: на беларускую мову ў другіх класах запісалася 150 вучняў. Аднак хутка вучні пачалі выпісвацца. Паводле адных пакінулі навучанне 30-40 асоб, другія падаюць меншыя лікі.

— У другіх класах на беларускую мову запісалася 140 вучняў, 10 перасталі хадзіць. Бацькі не хацелі, гаварылі што іх дзеці маюць замнога ўрокаў, — сказала настаўніца Тамара Грыгарук.

— Напішыце, што вельмі многа дапамагла нам школа... — дабавіла настаўніца.

Дырэктар ліцэя Яўген Сачко іншай думкі.

— Бацькі вельмі прыхільна сустракалі нас, калі мы хадзілі па хатах і пераконвалі, што беларускую мову трэба вывучаць. Праблема заключаецца ў тым, што дзеці самі ўцякаюць з цяжкіх ці нецікавых заняткаў, — сказаў ён.

Спадар Сачко пасадзейнічаў ажыўленню навучання беларускай мовы ў Гайнаўцы.

— У мінулым годзе я зрабіў у ліцэі сустрэчу. Ёсць у Гайнаўцы група людзей, якім на сэрцы ляжыць навучанне роднай мовы. Хадзілі мы па школах і пераконвалі. У верасні г.г. мы наведалі школу „на Мазурах". Наша сустрэча аказалася плённай: калі на пачатку верасня ў кожным класе запісваліся па 2-3 асобы, то пасля нашай размовы колькасць павялічвалася да 20 вучняў у адным класе. Пры нагодзе трэба падзякаваць тым людзям, якія змагаліся за гэтых вучняў. Гэта: Васіль Сакоўскі, Аляксей Мароз, Яўген Вапа, былы дырэктар ліцэя Аляксандр Іванюк, інжынер Міхась Байко, дырэктар ГОК і радны Мікалай Бушко.

Яўген Сачко падарыў школе н-р 6 піяніна. Гэты жэст меў наладзіць добрае супрацоўніцтва.

— Jeżeli macie nas krytykować to możecie nie przyjeżdżać. Po co pisać, że głośnik był popsuty, — сказала ў адрас „Нівы" дырэктар школы Ірэна Кулачэўская. Паінфармавала яна таксама, што ў школе развіваецца беларуская мова і ёсць для гэтага спрыяльныя ўмовы.

— Думаю, што ненадоўга тут беларуская мова. Тутака няма для гэтага атмасферы. Вось, напрыклад, калі мы хадзілі і пераконвалі бацькоў, настаўніца якой мы арганізавалі штат, нават не паказалася. А калі мы назбіралі звыш сотні вучняў, яна перапалохалася гэтай колькасці і гаварыла дзеткам: „Zostało jeszcze 3 dni, żeby się wypisać". Калі я спрабаваў гаварыць аб гэтым з дырэктаркай школы, мне адказалі: „Co się pan czepia, to bardzo cenny pedagog", — закончыў расказ Міхась Байко.

Неадназначна „аб прыхільнасці" сведчыць факт, што ад працы ў бацькоўскім камітэце быў адхілены Міхась Байко — найбольш адданы беларускаму школьніцтву ў Гайнаўцы чалавек.

Усе чыноўнікі не любяць крытыкі. Аб сабе думаюць заўсёды, што яны — „wybitni specjaliści" і ніякая крытыка ў іх бок не павінна з'яўляцца.

**Г. Кандрацюк**

# УЗНАГАРОДА З ЯПОНІІ



*Андрэй Філіманюк — настаўнік малявання ў "тройцы".*

*Працяг са стар. 1*

Апрача таго навучаю англійскай мове ў Орлі і ў фірме „Farmbest". Для гэтай фірмы перакладаю таксама афіцыйную карэспандэнцыю, калі ёсць такая патрэба.

*— Давай пагаворым пра Тваю асноўную працу — у „тройцы". Наколькі я памятаю, такому прадмету як маляванне ніколі ў нас не адводзілі асаблівай увагі. Здаралася нават, што калі былі праблемы са своечасовай рэалізацыяй праграмы польскай мовы ці матэматыкі, настаўнікі падганялі гэта на ўроках рысункаў.*

— У нашай школе чагосьці такога няма. Гэты прадмет, як кожны іншы, мае свой ранг. У новым будынку, побач гімнастычнай залы будзе спецыяльны кабінет для рысункаў. Тады будзем мець увогуле дасканалыя ўмовы працы, бо цяпер у школе цеснавата і даводзіцца нам мяняць залы. А калі малюем, скажам, акварэлямі ці што клеім, то і насмецім. Лепш, зразумела, будзе на сваім, каб нікому не мяшаць.

Ёсць ужо ў школе даволі моцная група вучняў, зацікаўленых маляваннем — дзесьці з 15 асоб. На гурток хацела хадзіць нават больш, але калі хто не стараецца, не вучыцца ці не трымае дысцыпліны, я проста такіх звальняю. У гуртку мы выпрабоўваем новыя тэхнікі, напрыклад, малявалі ўжо алейнымі фарбамі. Прычым, я не навязваю ніякай абавязковай тэхнікі, кожны развівае свае здольнасці ў тым, што найбольш любіць. Я толькі хачу ім як найбольш перадаць, навучыць, каб у іх быў выбар. Арганізуем таксама мастацкія пленэры. Выязджалі на тры дні ў Цехановец, арганізавалі зімовы пленэр над Нарвай. Пад канец года арганізавалі выстаўку нашых прац, паказалі дзесьці 250.

У гэтым годзе таксама будзем прымаць удзел у розных конкурсах, гэта падахвочвае дзяцей да працы. Цяпер высылаем малюнкі ў беластоцкі Музей войска, які распісаў конкурс „Гісторыя польскай зброі". Мы ў гэтым выпадку абмежаваліся ано II сусветнай вайной. Бурмістр Бельска і Гарадская бібліятэка аб'явілі мастацкі конкурс супраць алкагалізму. Крышку малявата часу, але, думаю, што і ў ім прымем удзел.

*— Дзякуй за размову і жадаю поспехаў.*

**Гутарыў Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**

P.S. Адрыян Флёрка на свой талент глядзіць вельмі крытычна. Лічыць, што ў конкурсе меў проста шчасце. Сказаў мне ён таксама, што не спалучае, пакуль, сваёй будучыні з маляваннем. Прадаўжаць навуку хоча ў Агульнаадукацыйным ліцэі імя Браніслава Тарашкевіча.

# „Атрасіны" ў Беластоку

4 лістапада г.г. у студэнцкім клубе „Гвінт" адбыліся чарговыя „Атрасіны" для студэнтаў-першакурснікаў. Арганізатары назначылі пачатак мерапрыемства а 19 гадзіне. Але ў гэтую пару па зале „плёнталіся" толькі „мастадонты" (ветэраны студэнцкіх імпрэзак) і арганізатары. Не прыцягнула беластачан і тое, што іграў самы папулярны калектыў „Рэаль".

Атрасіны пачаліся 2 гадзіны пазней. Праграма была вясёлая і, здаецца, смешыла многіх удзельнікаў.

Дарэчы, паўтарыліся ўсе сцэнкі, якія ў гэтым годзе прыдумалі гайнаўскія ліцэісты. Афіцыйную частку вялі: Альжбета Бурачэўская і Юрка Пякарскі. Хаця і Альжбета хвалявалася за арганізатараў, што ў апошняй хвіліне папрасілі яе весці мерапрыемства, можна сказаць, што ратавала яна гонар літаратурнай мовы. Уражвалі бойкія першакурснікі, якія не пагаджаліся з агульнай модай — польскамоўем. З павагай паўтаралі яны за Даротай Сульжык словы прысягі:

„... шанаваць культурную спадчыну беларусаў, бараніць беларускую справу, актыўна ўдзельнічаць у беларускім студэнцкім руху. Прысягаем!"

Далей пачаліся танцы, размовы, спевы. „Як забава то да раня" — іграў нястомны „Рэаль".

У гэтым годзе асаблівай прыкметай было і тое, што на аднаго хлопца прыпадалі аж тры дзяўчыны. А яшчэ нядаўна ў Беластоку на „Атрасіны" прыходзіла 400—500 чалавек. Зараз беластоцкія юнакі ганяюцца аж на Грабарку poszukać prawosławnej dziewczyny".

**Г. Кандрацюк**

# Гуманная дзейнасць

У Беластоцкім ваяводстве на прадпрыемствах дзейнічаюць 82 гурткі Польскага чырвонага крыжа з чатырма тысячамі членаў. У школах налічваецца 226 гурткоў, у якіх згуртавана 13820 членаў. Працуе яшчэ 185 клубаў „Вавёрка", якія аб'ядноўваюць 6500 членаў і дзейнічаюць у прадшколлях і сярод малалетак у пачатковых школах. Да ПЧК належаць перш за ўсё тыя, каму асабліва блізкія справы гігіены, дапамогі самотным, старым хворым дома, грамадскай апекі ды выратавальнай службы.

Многа ўвагі дзеячы гэтай арганізацыі адводзяць санітарнаму абучэнню ў школах. Дзеля гэтага ПЧК арганізоўвае шматлікія курсы і конкурсы. У інтэрнатах лекары чыталі лекцыі па пытаннях СНІД, туберкулёза і наркаманіі.

У ваяводстве дзейнічае 39 донарскіх клубаў (для параўнання ў 1990 годзе было іх 63), якія налічваюць 2160 чалавек. У гэтым годзе аддалі яны 3300 літраў крыві.

Іншыя галіны дзейнасці ПЧК — гэта дапамога самым бедным сем'ям (іх забяспечваюць вопраткай, абуткам, харчовымі прадуктамі) ды арганізоўванне бясплатных абедаў у школах.

**(яц)**

# Зорка
## старонка для дзяцей

*ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ*

*Ала Канапелька*

**ФЛАМАСТЭР-МАЙСТАР**

У мяне жыве фламастэр,
ён найлепшы ў свеце майстар.

Пажадае — намалюю
мышку, спрытную, малую.

Вушкі, вочкі, носік, роцік
і пузаценькі жывоцік.

— Паглядзі сама ў люстэрка.
Падабаецца паненка?

— Не хапае мне чагосьці.
Дзе даўгі, прыгожы хвосцік?!
Намалюй спадніцу, шапку,
з бантам туфелькі на лапкі.

Мой фламастэр не гуляе,
мышку з густам апранае.

— Ах, нарэшце любата!
Не малюй адно — ката...

*З вучнёўскай творчасці*

**ЛІСТЫ**

Колькі на зямлі лістоў ляжыць!
Цяжка нават усе іх палічыць!
Чырвоныя, жоўтыя, кавовыя,
Чорныя, бронзавыя, барвовыя...

Увесь панадворак заслані
Разнакаляровым дыванам
Вытканым ветрам.

**ВОСЕНЬ**

Па лесе прайшла,
Вецер з сабою прывяла,
Птушак у вырай адправіла.
А працавітая,
Добрая,
Багатая:
Лісця і яблык
У садзе натрасла,
Пладамі нас пачаставала.
З лесу кошык
Зялёнак прынесла.
Цыбулі, гароху, морквы,
Капусты нам дала...
Хоць летась мы бульбы
меней назбіралі,
І за гэта Богу
„дзякуй" сказалі.

**ЛІСТАПАД**

За кастрычнікам з холадам
прыйшоў
І на двор з маразам зайшоў.
Дрэвы ў шэрань апранаў,
Калюгі лёдам накрываў.
Дзень абцяў,
Ночы дадаў...

**Юрка Буйнюк,**
**Маліннікі**

**Узнагароду за адгаданку лагагрыфа з 44 нумара „Зоркі" (*компас*) высылаем Мар'і Хадакоўскай з Гайнаўкі.**



*Юныя музыкі з Орлі.* **Фота М. Ваўранюка**

*З гісторыі Беларусі*

## РАДАШКОВІЧЫ

Радашковічы... Даследчыкі сцвярджаюць, што значэнне гэтага слова „радавацца", „весяліцца", або — „радзіцца" (раіцца). Сюды ж адносяць, і аднакарэннае слова „радзімічы". У беларускім фальклоры таксама сустракаюцца вуснапаэтычныя творы, якія ў нейкай ступені падкрэсліваюць рэальнасць такіх сцверджанняў.

Паводле аднаго з іх недалёка ад гэтых мясцін вельмі даўно жыў князь. Добры гэта быў чалавек. Суровы, але справядлівы, і людзі вельмі яго паважалі. Радасцю сваёй ці бядою заўсёды дзяліліся з валадаром, і той дапамагаў, чым мог, а калі не мог, то проста па-чалавечы спачуваў. Лягчэй рабілася ад такой спагады, супакойвалася сэрца. Слава пра князя ішла далёка за яго ўладанні. Суседскія беднякі зайздросцілі тым, хто апрацоўваў княскія землі, служыў у яго най дружыне. Але ім заставалася толькі зайздросціць, бо іхнія валадары былі зусім іншыя: злыя, бязлітасныя.

Была ў князя адзіная дачка. Бацькі нарадавацца на яе не маглі. Цвіла дзяўчына, як вясна, свяцілася, як заранка. Песні вясёлыя спявала, шчабятала, што тая ластаўка. Ды здарылася бяда нечаканая — захварэла князёўна моцна, ляжала дзень і ноч у ложку, змізарнела зусім. Плакалі бацькі, плакалі людзі, бо ведалі, што азначала гэта для князя. Якія толькі вешчуны і знахары не шапталі і не тварылі над ёю сваю варажбу, ды нічога не выратоўвала. Ужо змірыліся ўсе з тым, што дзяўчына не выжыве і пойдзе да нябесных багоў. Але аднаго разу прыйшоў да княскага палаца малады падарожнік і запатрабаваў, каб яго правялі да гаспадаровай дачкі. Без асаблівага спадзявання, а ўсё ж хлопца правялі. Паглядзеў ён на хворую, пашаптаў нешта і гучна мовіў князю: „Заўтра, княжа, устане яна на ногі і з гэтага дня пачне набірацца сілы... Я ёй яшчэ вады з крыніцы раніцай прынясу". Сказаў так і выйшаў.

І дзіва! Назаўтра дзяўчына паспрабавала ўзняцца, а калі прыйшоў вандроўнік і даў напіцца вадзіцы, павесялела.

Аддаў князь сваю дачку за хлопца і загадаў на ўзгорку пабудаваць ім прыгожы палац. Маці папрасіла людзей радавацца, весяліцца цэлы месяц. Вось адкуль Радашковічы.

**Аляксей Ненадавец**

25

„СЭМ—СЭР"

(1)

Гэта два словы: клічнае — Сэм! — і адказнае — Сэр? — сталі на нейкі час у нашым доме нечым накшалт хатняй прымаўкі. А запазычаны былі са спектакля „Запіскі Піквікскага клуба" ў славутым на ўсю краіну тэатры.

На покліч містэра Піквіка: „Сэм!" ягоны слуга, Сэмюэль, адразу ж абзываўся напаўзапытальным: „Сэр?" У гэта аднным-адненькае, да таго ж аднаскладовае слова незраўнаны артыст укладаў многа разнастайных адценняў: „слухаю", „я — тут", „я напагатове", „што загадаеце?", „бягу да вас". І яшчэ безліч доказаў зрыхтаванасці тае ж хвіліны выканаць патрэбную паслугу.

Гэта было майстэрства напаўняць слова жывым, кожны раз іншым, у залежнасці ад надвор'я, падзеі, настрою, зместам. Карацей, майстэрства не іграць ролю — выконваць ролі ўмеюць шмат якія акцёры, — а перартварацца ў іншага, не падобнага да сябе чалавека, як бы рабіцца тым чалавекам.

Адным словам, інтанацыі выдатнага артыста запомніліся і паслужылі штуршком да аднае з Дзікавых прыгод.

Як і раней, мы часта гулялі з ім у парку. Сам не ведаючы чаму, аднойчы я выпрастаў паднятую руку і сказаў: „Сэм!". Сабака, відаць, палічыў гэта за пачатак гульні і падскочыў амаль да ўзроўню пдяча.

Мы пайшлі далей. Уздоўж алеі, на якой

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

мы зрабілі практыкаванне ў падскоках, узвышаліся бетанаваныя пастаменты вышынёй у палавіну чалавечага росту. На іх панастаўлялі безліч няўклюдных, таксама бетонных, пасудзін, і блізка непадобных да старажытных амфор, пра цудоўную форму якіх павінны здагадвацца наведвальнікі. Такім высакародным памкненнем, трэба думаць, і кіраваліся растаўляльшчыкі гэтай бязгусціцы ў людных месцах.

Алею з другога боку загрувашчвалі абы-як зьлепленыя і неахайна сфармаваныя постаці хлопчыкаў і дзяўчатак. Паміж іх, крыху адступіўшы на пагорак, невядома за якія заслугі быў узнесены на пастамент сабака.

Мы спыніліся, Дзік не прызнаў гэтага пудзіла за сваяка, дый, праўду сказаць, яно вельмі мала нагадвала высакародных аўчарак ці ганчакоў. Аднак нейкія сабачыя рысы ўсё ж былі схоплены дапамогай волі жыва, і мой пёс дзеля знаёмства махнуў хвастом.

Не думаючы падахвочваць яго на падскок, я чамусьці падняў руку і вымавіў: „Сэм!". На пастаменце імгненна з'явіліся два сабакі, жывы з радаснай мордай — выканаў каманду! — і другі, цэментовы, увесь у дажджавых пацёках. Я збянтэжыўся: выпадковая непавага да паркавых акрас і аздабленняў у вачах тутэйшых вартаўнікоў і ахоўнікаў парадку магла вырасці ў наўмысную знявагу і скончыцца непрыемнасцямі.

Дзякуй Богу, нікога блізка не было. Надумаўся праверыць: што гэта — выпадак ці Дзік лёгка запамінае каманды і яшчэ паддаецца дрэсіроўцы. На хаду я падымаў руку і казаў: „Сэм!", сабака з відавочнай ахвотай адказваў высокім падскокам. Так забаўляючыся, абышлі ўвесь парк з прыпынкамі каля постацей на пастаментах, каб ушанаваць іх толькі што засвоеным гімнастычным практыкаваннем, якое наўрад каб удалося радавому гімнасту.

На мастку, пачуўшы запаветнае слоўка „Сэм!", сабака без вагання адужаў даволі высокія парэнчы, але доўга не ўстояў: біла было вузкаватае, а ўнізе шумела рака. Дзік зірнуў і паспяшаўся саскочыць долу.

Тут нас усё ж дагнала вымова.

— Спрытны сабака! — поруч спыніўся пажылы чалавек у капелюшы, з цёплым шалікам пад плашчом. — Дрэсіруеце? — Ён, відаць, палічыў мяне за аднаго з артыстаў недалёкага цырку, якія выгульвалі ў парку сваіх выхаванцаў.

Я сіліўся выціснуць з вуснаў хоць які адказ, але, уласна кажучы, апраўдання не было, не было і патрэбы ў ім.

Чалавек у плашчы асуджальна дадаў:

— Дрэсіроўка — справа патрэбная, але не ў такіх месцах! Сабака скача на статую! Разумець трэба!!!

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

9

**Лесвічкі**

Каб падняцца і спусціцца па приступках гэтых лесвічак, трэба на кожнай прыступцы ўспомніць назоўнік у пачатковай форме (толькі агульныя або і ўласныя, простыя або таксама і складаныя — абумоўліваецца ў кожным асобным выпадку).

Лесвічка будуецца самімі ўдзельнікамі спаборніцтва — чыя будзе вышэйшай? Літара адна для ўсіх — па дамаўленню або выцягнутая з разразной азбукі наўздагад.

*(працяг у наступным нумары)*

Лесвічка *Е*



Лесвічка *І*

Лесвічка *У*



Лесвічка *Я*



Лесвічка *Т*



Лесвічка *Г*



Лесвічка *Э*



Лесвічка *К*



Корань у лесвічцы

# Вершы Віктара Шведа

**СІЯМСКІЯ БЛІЗНЯТЫ**

Растлумачыў свайму сыну тата,
Хто гэта сіямскія блізняты:
— Яны нешчаслівыя ад роду,
Мусяць разам прабываць заўсёды.

— Ці блізняты, — запытаў Мікола, —
Заўжды ходзяць неразлучна ў школу?
А як жа, тата, тады яны ходзяць,
Калі адно з іх паўтарае годзік?!

**НАЙДАЎЖЭЙШАЯ — ГУМА!**

Звяртаецца з пытаннем гэткім
Настаўнік беларускай мовы:
— Скажыце, дарагія дзеткі,
Мне доўгае надзвычай слова.

— Па-мойму — гума, — кажа здольны
Да розных жартаў вучань Колька.
— Гуму расцягнем мы адвольна,
Калі захочацца нам толькі.

**ЧАМУ СПІШ НА ЎРОКАХ?**

— Ты непапраўны абібоку,
Чаму заўсёды спіш на ўроках?
— Не задрамаў я аніколькі, —
Тлумачыцца санлівы Колька.

— Тады ты паўтарыць павінен,
Што я сказаў перад хвілінай!
— Дык адкажу без перашкоды:
„Чаму на ўроках спіш заўсёды?!"

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Мама пытае малога Мікітку:
— Скажы, чаму тады, калі табе дае лякарства бабуля, ты яго п'еш, а ад мяне не хочаш?
— У бабулі трасуцца рукі.

* * *

Ваня і Коля коўзаліся па замерзлым ставе. Ваня трапіў пад лёд і пачаў тапіцца. Коля кінуўся на ратунак, выцягнуў хлопца, хаця было вельмі небяспечна.

Прыбеглі старэйшыя, пачалі хваліць храбраца:
— Малайчына! Ты, пэўна, свайго брата выцягнуў?
— Не, гэта не мой брат.
— А хто — сябра?
— Таксама не.
— А хто ж ён для цябе?
— Знаёмы, якому я пазычыў канькі.

* * *

— Мая мама ездзіць на аўтамышыне як маланка!
— Так хутка?
— Не, так часта трапляе ў дрэвы!

**Андрэй Гаўрылюк**

# Дзіўны касмічны сусед

Сама мала 15 тысяч гадоў прайшло з тых часоў, калі чалавек насечкамі на мамантавым ікле зафіксаваў факт свайго назірання за Месяцам. Як лічаць вучоныя, рабіць гэта людзі навучыліся значна раней, чым яны пачалі назіраць за Сонцам. Няспешна, пакрысе назапашваў чалавек веды пра начное свяціла, навучыўся дакладна вылічваць моманты змены яго фаз, надыходы сонечных і месячных зацьменняў. Але яшчэ і сёння далёкія мы да таго, каб разгадаць усе загадкі нашага касмічнага суседа.

Сапраўды, ці не дзіва ўжо тое, што Месяц, які звычайна лічыцца спадарожнікам нашай планеты, мае памеры ўсяго ў 4 разы меншыя за памеры Зямлі, а масу меншую за зямную ўсяго ў 81,3 разы. Усё гэта робіць Месяц нязвычным у шэрагу спадарожнікаў планет Сонечнай сістэмы, якія звычайна бываюць меншымі за свае планеты, прынамсі, у тысячы разоў. Вось і загадка: як мог у адносна малой унутранай планеты (да іх адносяць яшчэ Меркурый, Венеру і Марс) з'явіцца такі гіганцкі спадарожнік? Шмат планетолагаў схільныя лічыць, што маем тут справу зусім не з сістэмай „планета — спадарожнік", а з даволі унікальным утварэннем у касмічным наваколлі — з „двайной планетай".

Апроч таго, аказалася, што бачныя дыяметры Сонца і Месяца на небасхіле амаль аднолькавыя. Дзівосная акалічнасць! Менавіта дзякуючы гэтаму Месяц падчас сонечных зацьменняў можа закрываць ад нас Сонца цалкам і на некалькі хвілін ператвараць дзень у цёмную зорную ноч.

І зусім ужо нечаканым вучоныя даведаліся, што Месяц — даволі гарачае цела. З яго нетраў ідзе цеплавая плынь, блізкая цеплавой плыні з нетраў Зямлі. Ці азначае гэта, што шчыльнасць радыеактыўных элементаў на Месяцы ў 4—5 разоў вышэй, чым на Зямлі? Гэтая і іншыя загадкі Месяца яшчэ чакаюць свайго вырашэння.

**С. Санько**

*Сурэн Мурадзян*

# КАЗКА ПРА ВЯРБЛЮДА

Калі — невядома,
Зімою ці летам
Вярблюд нарадзіўся —
Гультай несусветны...

1

Малаціў пшаніцу Вол
На таку.
А Вярблюд вяночкі віў
Убаку.

Вол Вярблюда папрасіў:
— Бачыць Бог,
Ты б, бо я не маю сіл,
Дапамог,
Так стаміўся, лёгкі цэп
Не падняць,
Плечы апякае боль,
Не суняць.

Адказаў яму Вярблюд:
— Ну і ну,
Што я дурань, каб сваю
Гнуць спіну!
Сам араў, вырошчваў, сам
Малаці!
Напрыдумаў глупства, прэч
Адыдзі!

2

Ходзіць Ослік па базары,
Кругам, кругам галава,
Цягне ён хурджынаў пару,
Гэта значыць — цэлых два!

Азірнецца адзінока,
Млосна, цяжка, як тут быць?
І яму ужо ні кроку,
Ні паўкроку не зрабіць!

Вось Вярблюд, нібы лясіна,
Крок — на зайздрасць землякам.
На вярблюдзе ні хурджына,
Ні карзіны, ні мяшка.

— Мо падзелім мы турботы, —
Кажа Ослік. — Хоць адзін
Пад разлік, што будзе потым,
Паднясі адзін хурджын!

— Гэй, Ішак, ці не зняславіць
Думаеш мяне? Цягні!
Сам сабе прыдумаў справу
І служы ёй дзень пры дні!

3

Цягне воз Канёк, хоць смага
Мучыць. Сілы не хапае.
Цяжка, цяжка бедалагу,
Ногі ледзь перастаўляе.

Кажа, стомлены, Вярблюду:
— Можа, ты мне дапаможаш?
Дапамогу не забуду
Я праз сто гадоў, крый Божа!

А Вярблюд і чуць не чуе:
— Годзе, годзе пасміхацца,
Каб калёсы ды цягнуў я —
Вам ані не дачакацца!

4

Такія дзівосы
Мы можам сасніць...
Падслухаў размовы
Адзін Чараўнік.

І вырашыў так:
Гультая ён правучыць —
Няхай той каўтае
Сухія калючкі,
Хай пасвіцца ён,
Дзе пустыня нямая,
І хай два гарбы
На спіне пацягае.

А Вол-працаўнік? А Асёл?
А Каняка?
Хай добра ім будзе,
Заўсёднае дзякуй.

Ячмень і авёс
Хай даюць ім ахвотна,
Калі для людзей
Іх не мучыць лянота.

Вярблюд закрычаў:
— Гультаём я не буду.
Цяпер, Чараўнік,
Працай лёс свой здабуду!
Лянота мая
І фарсістасць
Загіне! —
Пачаў ён вадзіць караван
У пустыні.
Ён возіць людзей,
Ганарысты і важны,
І слова нядобрага
Болей не скажа.
Заўзята гарбаты
Прасторы прастуе.
Ды гэта яму, натуральна, даруем!

# „Тыневічанкам” засвяціла зорка



*„Тыневічанкі” чакаюць гасцей.*

Здавалася б, нічога асаблівага: атрымалі два пакойчыкі ў старым будынку стогадовай школы, але вочы жанчын з калектыву „Тынсвічанкі” аж іскрацца ад радасці, калі вітаюць яны гасцей на парозе сваёй сядзібы 4 лістапада — на іх „уваходзіны”.

Будынак стары, але моцны — відаць, што будаваўся салідна. Школа ў Тыневічах пуставала ўжо другі год. Да гэтага там былі тры класы і прадшколле. Гмінныя ўлады хацелі школу прадаць. Можа, заняла б яе нейкая суполка, як і ранейшы вясковы клуб, дзе калісьці праводзілі рэпетыцыі „Тыневічанкі”.

Але тут ужо мы ўзяліся цвёрда, кажуць жанчыны з калектыву. То ж нашы не дзяды, а яшчэ прадзеды будавалі гэту школу. Ёй ужо сто гадоў будзе!

Анна Дудзіч: „Ужо 35 гадоў майго дзеда няма, а памёр у 96 гадоў. То ён яшчэ дрэва рэзаў на школу!”

Ну, і што, мелі б школу пад суполку аддаць, школу, у якую многія гады хадзілі дзеткі з чатырох вёсак — Тыневіч Вялікіх і Малых, Радзькаў ды Лапухоўкі?!

Дакучалі мы, расказваюць жанчыны, і Валі, і Сычэўскаму ў Таварыстве, і ў Бушкі ў Гайнаўцы былі, ну, і неяк усе да войта ў Нарву... І вось новы войт Ян Іванюк прыхіліўся да нашай просьбы. Школу перадалі на патрэбы культуры, зрабілі ў ёй клуб. Цяпер ён у ведамстве Гміннага асяродка культуры ў Нарве, якім кіруе Ірына Шастай. Моладзь тут не гуляе, але адбываюцца сходы, наймаюць клуб пад вяселлі. Наш калектыў атрымаў тут два пакоі. Палова сярод нас — гэта ўдавіцы. Збіраемся тут — і чалавек не адзін. Правядзем рэпетыцыю, сустрэнемся, пагаворым — і ўжо інакш. У цэнтральных аглядах мы ніжэй трэцяга месца не сыходзім. Вось і сёлета занялі другое месца, ды і амаль заўсёды займаем першае—другое.

Два пакойчыкі, да якіх атрымалі ключы жанчыны з спявачага калектыву „Тыневічанкі”, гэта сёння не проста пакойчыкі з чыстымі сценамі. Спявачкі ператварылі гэта памяшканне ў маленькі рэгіянальны куточак беларускай культуры з працамі мясцовых майстрыц — мастацкай вышыўкай, ручнікамі, жырандолямі і іншымі народнымі ўпрыгожаннямі. Тут жа развешаны дыпломы, якія атрымлівалі яны ў розных конкурсах, тут знаходзяцца і іхныя рэгіянальныя касцюмы. У клубе жанчыны збіраюцца ўжо ад жніўня, тут абмяркоўваюць свае планы, дзеляцца ўражаннямі, спяваюць. Жанчыны лічаць, што ім усміхнулася шчасце. А прынамсі так запісалі ў сваёй „Хронікі”, якая сама па сабе з'яўляецца асобным раздзелам іх дзейнасці.

Пад загалоўкам „*Тыневічанкі” цешацца сваім куточкам*” у „Хроніцы” чытаю: „Свая хатка, як родная матка. Так гаворыць беларуская народная прыказка — і гэта шчырая праўда, прытакваюць „Тыневічанкі”. (...) Цяпер гэта наш другі дом”.

Пытаюся, хто ў іх так добра піша па-беларуску — чысценькая мова, ніводнай памылачкі. Доўга ніхто не прызнасцца. Нарэшце, выцягнула ад іх: Вольга Свентахоўская — нумар два (бо ёсць яшчэ і Вольга Свентахоўская — нумар адзін, яна спявае ад самага пачатку). Аўтарка „Хронікі” прыйшла ў калектыў два гады таму. Калі вучылася ў Бельскім педагагічным ліцэі, дык нават матэматыка вялася там на беларускай мове, не гаворачы ўжо пра гісторыю. Даўно гэта было...

Большасці спявачак сёння 60—62 гады, наймалодшай — 45. Часамі прыходзяць у калектыў жанчыны, якія застаюцца ўдовамі. А спяваюць у Тыневічах усе!

Першы раз калектыў заспяваў у Нарве ў 1980 годзе. У будучым годзе будзе святкаваць сваё 15-годдзе. Вядома, пачынальніцай і галоўнай стваральніцай калектыву была Валянціна Франкоўская, бойкая жанчына, якая кіруе калектывам да сёння. Пачыналі з ёю: Вольга Свентахоўская (той „нумар 1”!), Марыя Леўчук, Анна Хірко, Анна Дудзіч. Сёння спяваюць яшчэ: Ніна Савіцкая, другая Вольга Свентахоўская і — ад лета — Яўгенія Селеванюк.



*Валянціна Франкоўская ад пачатку кіруе калектывам.*

У недалёкім Курашаве, кажу, нядаўна была імпрэза, мне гаварылі, што мо і „Тыневічанкі” прыедуць, але вас не было.

Дык нас жа ўкраінцы, адказваюць жанчыны, і ў Бельск запрашалі, але мы не едзем. Двум багам служыці не будзем. Праўда, тады напісалі, што адбудзецца сустрэча, і будуць і украінцы, і беларусы, але ж мы не паехалі.

Цяпер спяваючым жанчынам з Тыневіч вельмі не хапае аднаго — новых касцюмаў. Тыя, што маюць, ужо старэнькія, ды і кожная з удзельніц рабіла сабе касцюм сама, крыху яны разнашэрсныя.

Дык вось і была нагода абмеркаваць гэтую, такую важную справу. Ёсць надзея, што на сваё 15-годдзе „Тыневічанкі” выступяць у прыгожых аднолькавых строях. Як паінфармавала Барбара Пахольская, намеснік дырэктара Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку, этнограф з ВААКа зоймецца апрацоўкай касцюмаў для іх. Усе яны маюць прыехаць у Беласток і супольна абмеркаваць праект касцюмаў, ім таксама там знімуць мерку. На 15-годдзе калектыву будзе запісана таксама касета з іх песнямі, а грошы з запісу кампенсіруюць частку коштаў касцюмаў.

Войт Нараўскай гміны Ян Іванюк абяцаў пераканаць сваю раду, што мільёнаў трыццаць на касцюмы для „Тыневічанак” гміна павінна знайсці, а старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі абяцаў дапамагчы выканаць касцюмы ў Менску, каб было танней.

„Тыневічанкам” засвяціла зорка.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**



*Куточак „Тыневічанак” у клубе.*

# ГОК, які пульсуе жыццём

Іду я па вуліцы і здалёк пачуў мілагучны дзявочы спеў ды пералівістыя задорныя гукі гармоніка. З вокан плыла песня „Беласточчына”. Крыху пазней замяніла яе мелодыя „Пасадзіла ружу ля акна”. І так песня завяла мяне ў Гмінны асяродак культуры (ГОК) у Нараўцы. Тут якраз адбывалася рэпетыцыя жаночага харавога калектыву. Вёў яе музыка з Беларусі Анатоль Куніцкі.

Сустрэў я дырэктара ГОК Андрэя Скепку і мы разгаварыліся, вядома, пра цяперашняе культурнае жыццё ў вясковым асяроддзі ў Нараўчанскай гміне.

У кастрычніку мінулага года ў Нараўцы здалі ў карыстанне прыгожы новы будынак Гміннага асяродка культуры.

За гэты час ГОК апраўдаў сябе жывой, цікавай ды змястоўнай працай, якая мае свой адбітак у багата ілюстраванай рысункамі і фотаздымкамі хронікі гэтай культурнай установы. Цяпер у Гмінным асяродку культуры дзейнічаюць тры калектывы: фальклорнай песні (кіраўніком яго з'яўляецца Валянціна Панькоўская) ды школьныя — танцавальны „Душкі з пушкі” (вядуць яго Ала Саевіч і Зузанна Падэўская) і вакальна-інструментальны пад кіраўніцтвам Марка Харкевіча. Усе спартыўныя мерапрыемствы арганізуе Андрэй Скепка. Ён сам — спартсмен і вядзе некалькі спартыўных камандаў ды секцый, сярод іх дзве футбольныя і адна настольнага тэніса.

У ГОК ахвотна займаюцца дзеці — дзейнічаюць розныя гурткі зацікаўленняў, між іншым, фотааматараў (вядзе гурток Вялянцін Кандрацюк), рысавальшчыкаў (Ала Ставіцкая), танцавальны для самых малых дзяцей (Кася Беляўская), а таксама тут адбываюцца вечарыны-сустрэчы пенсіянераў.

Сёлета ў Нараўцы адбыліся тры ваяводскія культурныя мерапрыемствы: агляд школьных вакальна-інструментальных гуртоў (удзельнічала васемнаццаць калектываў і звыш двухсот асоб), агляд фальклорных ансамбляў (шаснаццаць калектываў) ды байдарачны паход.

На сцэне Дома культуры выступалі не толькі беларускія песенныя калектывы з Беласточчыны, але і замежныя, між іншым, „Крыніца” з Гародні і „Бліскавіца” з Менска ды „Чараўніца” з Кіева, актрыса Белдзяржфілармоніі ў Менску Галіна Дзягілева са спектаклем „Белы сон” паводле „Споведзі” Ларысы Геніюш. Частым тут госцем таксама ацкёры беластоцкага Лялечнага тэатра ды музыкі Дзяржаўнай філармоніі ў Беластоку. Два разы прыязджаў цырк: краёвы „Карона” і з Чэхіі. Калі толькі ёсць ахвотныя, у ГОКу адбываюцца маладзёжныя танцавальныя вечарыны. Улетку дыскатэкі адбываліся кожны дзень.

Нараўчанскі ГОК запрашае да сябе песенныя мастацкія калектывы з суседніх гмінаў, перш-наперш з Гайнаўскай і Чыжоўскай ды з Крынак, кабарэ з Беластока, танцавальныя ансамблі Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку, замежныя мастацкія гурты.

**Янка Целушэцкі**




*БАРЫС РУСКО*

**Парванае лета**

Парваў на шматкі я
дні гэтага лета.
Не люблю жалобных
харугваў,
бальзамаванага плачу
вачэй,
глухаты ў стогнах
і чорнага колеру
ў хаце,
на вуліцы,
на яве
і ў сне.
Баюся тых,
што бягуць у нікуды,
баюся застылых вуснаў,
калі вады па шыю,
баюся чакальні,
калі трэба ісці
зачыняючы за сабою дзверы.
А дні спякотныя,
як ніколі,
доўга памятаў бы
шолах сонца.
Не буду памятаць.
Парваў я на шматкі
лета,
лісткі нежаданага
календара.

# СВЯЦІЦЕЛЬ ІААН ЗЛАТАВУСТЫ



Святы Іаан, архіепіскап Канстанцінопальскі, нарадзіўся каля 347 года ў Антыёхіі (Сірыя) у багатай набожнай сям'і. Бацьку страціў ён ужо ў раннім дзяцінстве і з гэтай пары ягоная маці Анфуса поўнасцю прысвяціла сябе выхаванню сына. Узрастаў ён у духу пакоры і падатлівасці Божай волі, а таксама самаадрачэння ў імя вышэйшых мэт. Маці вучыла Іаана, што ён павінен непахісна імкнуцца дасягнуць іх, змагаючыся са спакусамі і пакутамі, якія будзе ставіць жыццё. Многа месца ў выхаванні сына адводзіла яна азнаямленню са Свяшчэнным Пісаннем. Іаан атрымаў тэалагічную адукацыю і падрыхтоўку ў галіне рыторыкі, між іншым, у вядомага сафіста Лівонія. Пасля заканчэння навукі, па просьбе маці, падаецца ў адвакаты і хутка дабіваецца славы таленавітага красамоўцы. Аднак выхаванне ў хрысціянскім духу і веданне з маленства Бібліі, паўплывалі на ягонае стаўленне да жыцця. Гэтыя фактары стрымоўвалі яго ад зямных спакус і заадно паказвалі на мізэрнасць жыцця. Неўзабаве Іаан пакідае адвакацтва і тады звяртае на яго ўвагу антыёхскі епіскап Мялецій, які бярэ яго пад сваю апеку. З рук епіскапа атрымаў ён хрышчэнне ды быў устаноўлены чытальнікам (чтецом). Позняе хрышчэнне (Іаану было тады звыш дваццаці гадоў) можна растлумачыць тагачаснымі звычаямі, калі хрысціліся людзі ў сталым узросце, а магчыма і тым, што ў Антыёхіі тады бушавала ерась арыянства і маці Іаана папросту адтэрмінавала хрышчэнне. Пасля хрышчэння Іаан хоча падацца ў манахі, аб чым здаўна марыў. Аднак па просьбе маці, якая хоча, каб сын пасля яе смерці застаўся ў іх сямейным доме, адтэрміноўвае на нейкі час гэтую задуму. У далейшым вядзе ён аскетычнае жыццё і вывучае Свяшчэннае Пісанне. Пасля смерці маці раздае ён сваю маёмасць бедным, вызваляе сваіх нявольнікаў і падаецца ў пустыню, дзе прабывае 4 гады ў манастыры і 2 гады ў самоце як пустэльнік. У той час аднаму старцу аб'явіліся Апосталы Іаан і Пётр, якія паведамілі, што Ісус Хрыстос прызывае Іаана навучаць і ўмацоўваць у праўдзе людзей, за якіх Ён — Збавіцель праліў Сваю кроў. Іаан пасля гэтага напісаў некалькі пасланняў, між іншым „Шэсць слоў аб святарстве" і „Напамін Фёдару". Першае пасланне Св. Іаан піша з тае прычыны, што яго і ягонага прыяцеля Васілія антыёхскія іерархі хацелі пасвяціць у епіскапы. Пачуўшы аб гэтым, Св. Іаан падаецца ў адасобленае месца, паколькі лічыць сябе непадрыхтаваным да сану свяшчэннаслужыцеля. У другім пасланні змяшчаюцца два трактаты аб манаскім жыцці, накіраваныя да ягонага прыяцеля Фёдара, які, будучы манахам, пакінуў гэты стан. Словы паслання зрабілі на ім такое ўражанне, што той вярнуўся ў манастыр, і пазней стаў нават епіскапам.

Пасля вяртання ў Антыёхію епіскап Мялецій пасвяціў Іаана ў 381 годзе ў дыяканы. У гэтым сане прабываў ён 6 гадоў. За гэты час усебакова знаёміўся ён з жыццём, наведваючы багатых з просьбай дапамагчы бедным, і бедных, калі дапамагаў ім. Гэтая служба яшчэ больш распальвала ў ім любоў да людзей і спачуванне для бедных. Першае срэбра, якое раздаў бедным, было яго ўласнасцю. З тае пары, можна сказаць, ужо нічога ўласнага не меў ён да канца свайго жыцця. У 386 годзе Іаана пасвячаюць у сан свяшчэнніка. У сваіх пропаведзях тлумачыць ён Свяшчэннае Пісанне, паказвае і абвяргае фальшывыя навукі, усхваляе святых, ганьбуе ўсялякую маральную нечыстату і абыякавасць у адносінах да бедных. Ён з'яўляецца голасам сумлення людзей аддадзеных пад яго апеку. У 387 годзе, падчас спагнання падаткаў, у Антыёхіі выбухае бунт і знішчаюцца статуі імператарскай сям'і. Наследнік епіскапа Мялеція, Флавій, падаецца да імператара прасіць ласкі, а Св. Іаана пакідае, каб той суцяшаў народ. Было гэта ў перыяд Вялікага Посту. Чакаючы імператарскага рашэння, адбываецца сапраўднае гавенне, узначаленае Св. Іаанам. Тады напісаў ён і прачытаў *21 прамову аб статуях*. Яго словы раздаваліся няспынна з царкоўнай кафедры, а слава аб ім разышлася па ўсёй імперыі. У час адной з пропаведзей атрымаў ён ад нейкай жанчыны найменне Златавусты. На працягу 12 гадоў, калі Св. Іаан быў прэсвітэрам, у сваіх пропаведзях паслядоўна каментуе практычна ўсё Свяшчэннае Пісанне.

У 397 годзе Св. Іаана пасвячаюць у епіскапы і прызначаюць на Канстанцінопальскую кафедру. Праводзіць ён рэформу кліру і няспынна клапоціцца пра тых, хто знаходзіцца пад яго духовай апекай. Становіцца абаронцам удоў, сірот і ўсіх патрабуючых, будуе шпіталі і прытулкі для бяздомных. Будучы „зямным анёлам і нябесным чалавекам", на ўласным прыкладзе ўсялякай дабрачыннасці вучыць іншых святасці жыцця. Дзейнасць *свяціцеля* не абмяжоўвалася толькі да сваёй епархіі. Св. Іаан пасылае місіянераў у Фракію, Аравію, Персію, а нават да готаў. Бог блаславіў ягоныя дзеянні і многія паганцы прынялі хрысціянства. Жыццё Св. Іаана і яго праца пранікнуты былі палымянай любоўю да Святога Праваслаўя і бліжніх, непахіснай верай, духам скромнасці, разумнай памяркоўнасці і зразумення для грэшнікаў. Характарызавала яго свяшчэнніцкая настойлівасць і жывая вера. Патрабаваў ад вернікаў чыстахрысціянскага жыцця, сам будучы яго прыкладам. Сваім любоўным, але адначасна строгім словам, клеймаваў заганы, якія пашыраліся ў падлеглай яму пастве, асабліва схільнасць да тэатральных відовішчаў, любоў да грошай, таўстаскурасць багацеяў. Неўзабаве яго пропаведзі і дзейнасць выклікалі варожасць багачоў, вяльможаў і многіх іншых. У 401 г. Св. Іаан пападае ў канфлікт з імператрыцай Яўдоксіяй, якой закідае раскошнае жыццё і несправядлівасць. Два гады пазней у выніку інтрыгі архіепіскапа Александрыйскага Феафіла, які перацягвае імператрыцу на свой бок, Св. Іаан быў пазбаўлены свайго сану і выгнаны. Хваляванні ў горадзе ў яго абарону прымушаюць Яўдоксію адступіцца ад несправядлівага прыгавору. Аднак неўзабаве даходзіць да паўторнага канфлікту з імператрыцай, калі свяціцель пратэставаў супраць ідалапаклонства перад яе новаўзведзенай статуяй. Праціўнікі сталі тады распаўсюджваць сфальшаваную пропаведзь супраць імператрыцы. Вясною 404 года Св. Іаана пазбаўляюць кафедры і ён падаецца ў выгнанне ў Кападокію і праз два месяцы дабіраецца да мясцовасці Кукуза ў гарах Таўр на пагранiччы з Арменіяй. Пісьмовыя кантакты з епіскапамі і прыяцелямі, а таксама наведванне сяброў насцярожваюць ягоных ворагаў. Чарговы дэкрэт загадвае падацца яму ў Піціунт у гарах Каўказа. Па дарозе памірае ад знясіленасці ў мясцовасці Комены (Абхазія), адправіўшы непасрэдна перад смерцю Літургію ў царкве Св. Мучаніка Васіліска і прыняўшы Святое Прычашчэнне. Здарылася гэтае 14 верасня 407 года ў дзень Уздзвіжання Крыжа Гасподняга.

У сваёй творчасці Св. Іаан быў непараўнальным красамоўцам і прапаведнікам. Ніхто не валодаў такім багаццем слова. Самыя складаныя і абстрактныя паняцці веры ў выніку ягоных паясненняў станавіліся зразумелымі кожнаму. Ягоныя словы — гэта мастацтва, якое то ўзрушае, то захапляе, або ўмацоўвае душы. У аснову дзейнасці Св. Іаана лягла любоў, і ягоныя словы былі напоўнены любоўю. Відаць гэта ў яго пропаведзях, якія дыхаюць то ўладнасцю і настойлівасцю, то незвычайнай чуллівасцю і сардэчнасцю. Немагчыма прадставіць усю сілу і атракцыйнасць павучэнняў Св. Іаана Златавустага, у якіх можна знайсці ўсё тое, што найбольш узвышанае і пераканаўчае ў красамоўніцтве. Жывое ўяўленне і надзвычайна авалоданая мова ў служэ людзей і Бажэственнага Адкрыцця ўчынілі яго найбольшым прамоўцам старажытнага хрысціянства.

Захаваліся амаль усе творы Св. Іаана. Лік пропаведзей сягае тысячы. Напісаў ён каля 800 прамоў, якія датычаць каментарыяў да Свяшчэннага Пісання: у 90 казаннях каментуе Евангелле ад Матфея, у 88 — Евангелле ад Іаана, у 55 — Апостальскія Дзеі, а ў 250 — Лісты Апостала Паўла. Напісаў ён яшчэ многія выхаваўчыя працы („Напамін Фёдару", „Аб спакусе і раскаянні", „Аб пыхлівасці і выхаванні дзяцей", „Аб манаскай дысцыпліне" ці шэдэўр „Аб свяшчэнніцтве") і многа лістоў. З красамоўніцкай творчасці найбольш вядомыя „На дзень свайго пасвячэння", „Аб статуях", „Аб міласціне", „Аб ігрышчах і тэатрах", „Аб спакусах", „Аб пакуце ў Вялікі Пост". Складзены ім быў чын Святой Літургіі вядомай як Літургія св. Іаана Златавустага.

Памяць Св. Іаана Златавустага, архіепіскапа Канстанцінопальскага, адзначаем 26 лістапада (13.11 па старому стылю), а таксама 27 студзеня (перанясенне мошчаў) і 30 студзеня (сумесна з Васіліем Вялікім і Рыгорам Багасловам, якіх разам завуць Усяленскімі Настаўнікамі).

**С. Н.**

# СЛОВА БОЖАЕ НА НЯДЗЕЛЮ

У 10 раздзеле Евангелля паводле Лукі, якое чытаецца ў 23 нядзелю па Пяцідзесятніцы, змешчана прытча пра міласэрнага самараніна. Хрыстос расказаў яе ў адказ на пытанне аднаго знаўцы Закону: „А хто бліжні мой?" Па дарозе ў Ерыхон разбойнікі абрабавалі і збілі да паўсмерці аднаго чалавека. Ледзь жывога абыякава абмінулі яўрэйскія святар і левіт, хаця добра ведалі Закон, які рэкамендаваў літавацца нават над аслом свайго ворага (2 Майс. 23: 4, 5). Няшчасным чалавекам заняўся самаранін — прадстаўнік суседняга, пагарджанага яўрэямі, народа. Ён не пытаўся, якой веры і нацыянальнасці пакалечаны разбойнікамі чалавек. Самаранін паступіў больш высакародна за тых, хто павінен быў у першую чаргу даваць іншым добры прыклад.

Усім прысутным з іх зняважлівым стаўленнем да чужаземцаў стала ясна, што яны не выконваюць закону, на які спасылаюцца, і што паводзіны паганца выкрываюць іх крывадушнасць і напышлівасць. У прытчы пацвярджалася агульная, евангельская праўда, што не павінна быць падзелаў і розніц паводле расы або веры, што „няма грэха ці яўрэя, вольнага і нявольніка". Усе людзі роўныя і заслугоўваюць на аднолькавую пашану.

Самаранін стаў сімвалам і сінонімам бескарыснай дапамогі бліжняму, усім пакрыўджаным і бедным. На дапамогу ў аднолькавай ступені заслугоўваюць самалійскія негры, баснійскія мусульмане, каталікі-харваты і праваслаўныя сербы. Яны самі можа заслеплены нянавісцю, але павінны знайсціся добрыя самаране — міжнародныя арганізацыі ці паасобныя людзі. Некалі негрыцянскі дзеяч і змагар за раўнапраўе неграў — Марцін Лютэр Кінг выказаў такую думку: „Справа не ў тым, каб увесь час выяўляць міласэрнасць самараніна, але каб ніхто нікога не збіваў і не рабаваў; каб дарога ў Ерыхон была бяспечнай". Інакш кажучы, ён быў прыхільнікам глабальнай бяспекі і справядлівасці. На жаль, на такую ідэальную сітуацыю прыйдзецца яшчэ доўга чакаць, яе не гарантуе ніводная палітычная сістэма. Заклік „Свабода, роўнасць, братэрства" гучыць прыгожа, аднак рэчаіснасць куды больш сумная за лозунгі. Патрэба дабрачыннасці, гэтак як у старажытнасці, назіраецца і ў наш час. На тратуарах і лаўках вялікіх гарадоў штодня паміраюць людзі. Гэта можа быць інфаркт або няшчасны выпадак, аднак прахожыя спешна абмінаюць іх. Яны, бы евангельскі святар і левіт, не хочуць мець клопату або для самаўспакаення палічаць чалавека п'яным. Ніхто не думае, што падобнае можа здарыцца з кожным і тады такая нячуласць і маладушнасць адаб'ецца на ім самім.

Падобным з'явам спрыяюць распаўсюджаныя стэрэатыпы і прадузятасці. Падзелы на „сваіх і чужых" праводзяцца паводле тых самых крытэрыяў, што і ў евангельскія часы: паводле іншасці, якая атаясамліваецца з „горшасцю". Увесь час людзі кагосьці за нешта не любяць: калі не за колер скуры, дык знойдзецца сто іншых прычын для зняважлівасці і варожасці.

У міжваенны перыяд галоўны рабін Прагі загадаў павесіць ва ўсіх бажніцах Чэхаславакіі партрэт а. Аляксандра Опіца і штогод ушаноўваць яго памяць. Чым заслужыў гэты чалавек на такую пашану і прызнанне? У 1919 годзе, падчас баёў з венгерскімі бальшавікамі за Міхалаўцы, нейкая цывільная асоба застрэліла венгерскага жаўнера. Вайсковае камандаванне ў рэваншы вырашыла публічна расстраляць аднаго мясцовага жыхара. Жэрабя выпала на яўрэя Майсея Дэйча, бацьку шасцярых дзяцей. Даведаўшыся пра гэтае, мясцовы святар умаляў салдат злітавацца над нявінным чалавекам. Калі ніякія просьбы не памаглі, а. Аляксандр папрасіў, каб яго расстралялі замест яўрэя. Гатоўнасць загінуць за іншага чалавека зрабіла на камандзірах такое ўражанне, што вызвалілі іх абодвух: яўрэя Дэйча і а. Аляксандра Опіца.

Няма сумнення, што гэты славацкі святар знайшоў бы шэраг вытлумачэнняў, каб не зацікавіцца лёсам нявіннага чалавека. Ён мог бы таксама абмяжавацца словамі спачування, якія нічога не каштуюць. Імкненне да змякчэння пакутаў або крыўды бліжняга мае тады вартасць, калі развязвае асноўную праблему. Творчы характар яно набывае праз уласную ахвяру і самаадрачэнне і ў гэтым уся сутнасць міласэрнасці.

Самаранін пашкадаваў няшчаснага чалавека і не абмінуў яго, спасылаючыся на свае перакананні. Евангелле і нам напамінае, што эгаізм нельга нічым апраўдаць і заклікае „ісці і рабіць гэтак".

**а. Канстанцін Бандарук,**
**Мюнхен**

# ЖЫВАТОМ УВЕРХ

**Калі не маеш сваёй зямлі, не можаш сеяць збожжа, гадаваць кароў, коней ці свіней, а хочаш адчуць сябе гаспадаром — гадуй слімакі.**

* * *

— Доўга я думаў, што ў сельскай гаспадарцы можа даць даход, — кажа Васіль Сліўка, — і нічога не прыходзіла ў галаву. Сёння з зямлі адны затраты. Урэшце рашыўся я на слімакі.

Супольна з Маркам Конюхам купілі 9 сакавіка 500 слімакоў. Далі за іх 15 мільёнаў. Да таго трэба было дакупіць пластмасавыя каробкі, у якіх трымаюць смаўжоў, пашу, розныя тэхнічныя прыборы (напр. для распырсквання вады), адаптаваць памяшканне. Пяццю мільёнамі абышліся.

— Крыху граша ўлажылі, але што цяпер пачнеш рабіць з меншай сумай? — пытаецца Марк Конюх. — Каб пасеяць гектар буракоў, напэўна таксама 20 мільёнаў пойдзе, на насенне, угнаенне, паліва для трактара, розныя хімічныя сродкі. А пачаць гадаваць памідоры ў „фоліі", то і 40 трэба.

Усяму мусілі вучыцца самі. Пачалі гадаваць смаўжоў у падвале ў блёку. З цягам часу перайшлі са сваёй „фермай" у гаспадарчы будынак. Маюць там усё, што трэба для такой гадоўлі — досыць месца, адпаведную тэмпературу, ваду. За восем месяцаў навучыліся даглядаць гэтых звяркоў.

* * *

Слімакі гадуюць на мяса і на ікру. Адно і другое ідзе галоўным чынам на экспарт. Мяса слімакоў белае, далікатнае, высока цэніцца ў Францыі, Нямеччыне, Даніі і Грэцыі. Яйкі — малочна-белыя, дыяметрам дзесьці 3 міліметры. Маладыя, але біялагічна дарослыя слімакі прадаюцца як рэпрадуктары новых статкаў.

Слімакі з'яўляюцца гермафрадытамі, усе нясуць яечкі, у сярэднім 70-150 штук. Але да апладнення яечак мусяць быць прынамсі два слімакі, пры чым, не ад кожнай пары ёсць прыплод.

З Польшчы да гэтай пары высылаўся смоўж звычайны (winniczek; лац. Helix Aspersa Pomatio), які свабодна жыве ў прыродзе. Для гадоўлі найлепшы Helix Aspersa Maxima, падобны на смаўжа звычайнага, толькі большы. Называюць яго проста шэры вялікі (szary duży).

* * *

В. Сліўка і М. Конюх пасля сямі месяцаў вярнулі ўкладзеныя ў гадоўлю грошы. Цяпер спадзяюцца прыбытку.

— Вясною трэба мне будзе панадворак густай сеткай гарадзіць, — смяецца сусед, — бо як вашы слімакі пачнуць распаўзацца па ваколіцы... Або шротам на зіму запасціся. Будзем паляваць на іх як на зайцаў.

— Рызыкавалі мы моцна, купляючы гэтыя слімакі, — прызнаецца спадар Сліўка. — Цяпер то ўжо памалу пачынае інфармацыя паяўляцца, а тады мы не ведалі нічога. А праца каля слімакоў чыстая і лёгкая, можа яе выконваць кожны, ад 15-гадовага юнака, па пажылога пенсіянера.

— Слімакі трэба даглядаць раз у дзень, — расказвае М. Конюх. — Напачатак было ўсяго 11 пасудзінаў, па 50 штук слімакоў у кожнай. За паўгадзіны можна было іх дагледзець. Цяпер маем каля 10 тысяч слімакоў, больш пасудзінаў, дык аднаму трэба вазіцца дзесьці 2,5 гадзіны.

Слімакі жывуць жыватамі дагары. В. Сліўка і М. Конюх гадуюць іх у пластмасавых пасудзінах (такіх неглыбокіх прамавугольных місках) з дзвюх палавінак — адна на сподзе, другая як накрыўка. Дагляд такі: трэба памыць адну палову, пасыпаць на яе корму (1-2 чайныя лыжачкі), прыкрыць гэтай палавінкай і паставіць пасудзіну на полку. Слімакі знізу пералазяць на накрыўку і з'ядаюць корм. На другі дзень трэба зрабіць тое самае, толькі накрыўка становіцца дном.



*Васіль Сліўка са сваімі слімакамі.*

Слімакі можна гадаваць у закрытым памяшканні або мешанай сістэмай — матачнік (рэпрадуктары) у памяшканні, а маладняк (на мяса) летам на двары, пад спецыяльнай сеткай. На зіму таварную масу можна прадаць, а рэпрадуктары захаваць да вясны ў зімовым сне. Дзеля гэтага два тыдні нельга слімакоў карміць, каб ачысціліся, а потым у сухім памяшканні абнізіць тэмпературу да 6°C. Слімакі трэба перахоўваць у драўляных скрынках і трымаць тэмпературу. У такіх варунках слімакі і перавозяць на даўжэйшых дыстанцыях.

У будынку гадоўлю можна весці круглы год. Трэба трымаць тэмпературу 17-19 градусаў. У каробках (калі закрытыя) або ў памяшканні (калі адкрытыя каробкі) мусіць быць вялікая вільготнасць — нават да 90 працэнтаў.

* * *

В. Сліўка і М. Конюх хочуць сарганізаваць сапраўдны пункт інфармацыі для зацікаўленых гэтай справай. Будуць паясняць, як пачаць і як весці такую гадоўлю, збіраць друкаваныя матэрыялы. Хочуць наладзіць сістэму дастаўкі адпаведных пасудзін, пашы і іншых патрэбных сродкаў. Урэшце, плануюць сарганізаваць пункт скупкі слімакоў.

Сваю гадоўлю паказвалі ў верасні на дажынках Бранскай гміны, у мясцовасці Мень. Пляц пакінулі апошнімі — кожны хацеў паглядзець гэтае цуда.

— Са слімакамі, як і з усім, — кажа В. Сліўка, — каб быў заробак, мусіць быць абарот. Будзе вялікі абарот, калі людзі ў нас зацікавяцца гэтым. У Бельску і ваколіцы ўсяго 11 чалавек гадуе слімакоў і нічога не рухаецца даперадў. Далей у Польшчы зацікаўленне куды большае, а тут нашы людзі, відаць, баяцца ўсялякіх навінак. Я пераконваў сябра, які закончыў Вышэйшую сельскагаспадарча-тэхнічную школу (АРТ) у Ольштыне і займаецца прадукцыяй камбікармоў, каб пачаў прадукаваць корм для слімакоў, дык ён не схацеў. Рынак замалы.

— Слімакі можа гадаваць і беспрацоўны, — дадае М. Конюх, — нічым не рызыкуючы. Хопіць зарэгістраваць гадоўлю, а калі з яе нічога не атрымаецца, пасля паўгода можна зноў пайсці на гадавую „куранёўку".

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**

P.S. В. Сліўка і М. Конюх запрашаюць усіх зацікаўленых да сябе ў Бельск. Адрас:

Ośrodek Hodowli Ślimaków
ul. Białowieska 72
17-100 Bielsk Podlaski

Калі чытачоў зацікавіць гэтая тэма, можам яе працягваць.

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ

**(12)**

### Дэмаграфія

У 1878 годзе ў Гарадку пражывала 1 800 чалавек. У 1930 годзе згаданае мястэчка было ўжо двухтысячным. Гарадок, як прамысловы пасёлак, узнік толькі ў другой палове XIX стагоддзя.

Сто гадоў пазней — у 1978 годзе ў Гарадку пражывалі 2 144 асобы (989 мужчын і 1 155 жанчын). У Гарадоцкай гміне налічвалася 8 306 жыхароў, у тым ліку 4 056 мужчын і 4 250 жанчын. Найбольшымі вёскамі былі: Валілы-Станцыя — 607 жыхароў (295 мужчын і 312 жанчын), Вейкі — 352 (174 мужчыны і 178 жанчын), Валілы — 322 жыхары (158 мужчын і 164 жанчыны) ды Залукі — 299 жыхароў (158 мужчын і 141 жанчына). Мужчын больш чым жанчын пражывала ў Падзалуках: 31 мужчына і ўсяго семнаццаць жанчын. У 1977 годзе пажанілася 61 пара і ў 1978 годзе — 77 пар. Найбольш шлюбаў было ў месяцы ліпені. У вёсках Гарадоцкай гміны многа, так сказаць, даўгавечных людзей. Тых, хто пражыў больш 90 гадоў, было 47 чалавек, у тым ліку дзве звышстогадовыя жанчыны: адна 104-гадовая і другая — 102-гадовая.

У 1992 годзе ў Гарадоцкай гміне пражывалі 7 072 чалавекі, а ў Гарадку — 2 855. У мінулым годзе гміна налічвала 6 954 жыхары. Найбольш пасяленняў — у паўднёва-ўсходняй частцы гміны, дзе пераважаюць сельскагаспадарчыя ўгоддзі. Многа вёсак знаходзіцца на ўскраінах Кнышынска-Беластоцкай пушчы ды над рэчкамі Супрасль, Плоска (Плёска) і Свіслач. У гміне 35 салэцкіх вёсак а ўсіх большых і меншых вёсак, хутароў ды невялікіх пасяленняў — 57. Шчыльнасць насельніцтва — 17 жыхароў на 1 квадратны кіламетр.

Зараз насельніцтва гміннай метраполіі — Гарадка — складае 2 814 чалавек. У Валілах-Станцы пражывае 683 асобы, у Валілах (або інакш, як тут падаюць адрозненне: Валілы-вёска) — 286, у Вейках — 222, у Падазеранах і ў Залуках — па 210. Апрача таго да найбольшых вёсак належаць: Баброўнікі (187 жыхароў), Зубры (185), Меляшкі і Белявічы (па 133). Паўсюдная з'ява — так як на ўсёй так званай Усходняй сцяне — абязлюдзенне вёсак. Для прыкладу, у 1980—1991 гадах у Мастаўлянскай парафіі нарадзілася ўсяго 45 дзяцей і памерла ажно 238 чалавек. Пажаніліся на працягу гэтых дванаццаці гадоў толькі 36 пар. У парафіі Каралёвы Мост у 1980—1991 гадах нарадзілася 88 дзяцей і памерла 203 асобы. У тым самым часе ў Гарадоцкай парафіі нарадзілася 677 дзяцей ды пахавалі 568 чалавек. Значыць, усяго толькі ў гэтым адным з трох прыходаў наглядаецца натуральны прырост.

У 1993 годзе ў гміне нарадзілася 73 дзяцей, пажаніліся 67 пар маладажонаў і памерлі 116 чалавек. Ёсць пятнаццаць пар, якія пражылі супольна па 50 гадоў, г.зн. да „залатога вяселля". У Гарадоцкай гміне найбольш вяселляў спраўляюць у верасні і ў кастрычніку. У адным выпадку пайшла да шлюбу 17-гадовая дзяўчына.

Бацькі даюць дзецям такія імёны: Марта, Кацярына, Магдаліна і Малгажата — для дзяўчынак; Матэуш, Пётр, Лукаш і Радаслаў — для хлопчыкаў.

Найстарэйшым мужчынам Гарадоцкай гміны з'яўляецца Ян Зрайкоўскі з Навасёлкаў — пражыў ён 101 „вясну".

### Сельская гаспадарка

Гарадоцкая гміна мае сельскагаспадарчы характар, з раслінна-жывёлагадоўчым накірункам. Выступаюць тут, аднак, дзярнова-слабападзолістыя глебы ды многа нявдобіцы. Пераважае зямля пятага і шостага класаў. Чацвёртага класа зямлі, на якой ад бяды можна сеяць пшаніцу і болей патрабавальныя культуры, у гміне не больш як 7%. Шмат слабых зямельных угоддзяў здаюць для аблясення. Такім чынам, лясная зона ўвесь час павялічваецца.

Усё ж варта згадаць, што ў васьмідзесятыя гады было зацікаўленне зямлёй перш-наперш у вёсках: Зубры, Калодна, Падазераны, Свіслачаны і Вейкі ды ў некаторых іншых. Сяляне са згаданых вёсак гадавалі многа дойных кароў.

Тады важную ролю адыгрывалі яшчэ дзяржаўны і спулдзельчы сектары сельскай гаспадаркі. Дзейнічалі дзве прадукцыйныя спулдзельні: у Зубрах, якая выбрала для сябе жывёлагадоўчую спецыялізацыю, і ў Лужанах, якая гадавала авечкі. Авечая ферма гэтай спулдзельні знаходзіцца ў вёсцы Баброўнікі. Тут цэлы агракомплекс: сем прасторных аўчарняў на 750 штук кожная, побач — велізарныя сіласы, склады, клуні і ўсё іншае, што неабходнае для абслугоўвання гэтай прамысловай фермы. Спулдзельня ў Лужанах мела свае зямельныя ўгоддзі ў дзевяці навакольных вёсках — між іншым у Вейках і ў Меляшках.

Зараз у Гарадоцкай гміне ва ўладанні сялян-аднаасобнікаў больш 10 тысяч гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў, у тым ліку амаль 5,5 тыс. гектараў ворнай зямлі, больш 3 тысячы гектараў лугоў і сенажацяў ды амаль паўтары тысячы гектараў пашы. Варта дадаць, што зямельныя ўгоддзі займаюць 73,5% усяе плошчы гміны.

Сялянскія лясы займаюць плошчу ў 3 тысячы гектараў. У тых недзяржаўных лясах шмат лесанасаджэнняў. Іх відаць усюды ў выглядзе большых і меншых плошчаў пасадак і маладнякоў. Сведчыць гэта пра стараннасць сялян.

Традыцыйна найбольшыя плошчы пасеваў ва ўсёй Гарадоцкай гміне займаюць збожжавыя культуры — амаль 3 тысячы гектараў. Пад жыта сяляне прызначаюць 1 560 гектараў і ўсяго 340 гектараў пад пшаніцу. У гэтым годзе ўраджай чатырох асноўных збожжавых культур склаў 19 цэнтнераў з 1 гектара. Бульбу сабралі з 520 гектараў, іншую агародніну з 34 га ды трускалкі — з 10 га. Ураджай бульбы — 180 ц/га.

У жывёлагадоўлі асноўнае значэнне мае рагатая жывёла і свінні. Пагалоўе буйнай рагатай жывёлы зменлівае. Зараз мала стабільнае таксама пагалоўе свіней. У тэрытарыяльным размяшчэнні хатняй жывёлы вялікіх розніц няма. Толькі авечкагадоўля лепш развіта ва ўсходняй частцы гміны. Цяпер гадуюць перш за ўсё авечкі пароды мерынос.

У гміне багата зялёных угоддзяў — іх 45% у структуры зямельных угоддзяў. І таму ёсць спрыяючыя ўмовы да гадоўлі кароў, авечак, коней і коз. Пашы можна мець удоваль. З лугоў можна тут сабраць 50 цэнтнераў сена з 1 гектара.

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

# ПАРАДЫ

## ГАСПАДЫНЯМ...

* Каб укусы камара не свярбелі, патрыце ўкушанае месца тампонам, змочаным лімонным сокам, сталовым воцатам, або нашатырным спіртам. Калі вас укусіла аса — разатрыце лісток пятрушкі і прыкладзіце да месца ўкусу.

* Каб мухі не заляталі ў вокны, аконныя рамы памажце воцатам.

* Лінолеум, рэлін захоўваюцца даўжэй, калі іх змазаць сумессю алею і воцату ў роўных частках. Сумесь трэба добра размяшаць.

* Пры жаўцізне зубоў, адзін раз на тыдзень трэба працерці зубы зубной шчоткай, змочанай у лімонным соку.

* Пры схільнасці да паўнаты раніцай нашча трэба выпіваць сок з палавіны лімона, разбаўлены шклянкай вады.

* Для таго, каб скура рук была белая, націрайце іх цёплай бульбяной кашай, зваранай на малацэ.

* Плямы ад віна на бавоўняным плацці або сурвэтцы можна выдаліць кіпячым малаком.

* Кафейная гушча надае бляск вырабам з цёмнай скуры. Для гэтага трэба некалькі лыжак вільготнай гушчы загарнуць у ваўняную або фланелеву анучку і энергічнымі рухамі націраць туфлі, партфель або сумку. Скура пачне бліщчэць, як новая. Гушчай добра мыць і бутэлькі з-пад алею. Накіп ад малака з посуду можна выдаліць, калі працерці посуд паперай і кафейнай гушчай. Такім жа чынам добра выдаляецца з посуду характэрны пах гарэлага.

* Калі замочваеце бялізну перад мыццём, добра ў ваду дадаваць шкіпінар (3 сталовыя лыжкі на вядро вады). Гэта садзейнічае адбельванню бялізны і значна палягчае мыццё, лепш выдаляе плямы.

* Падагрэтым драўняным пілавіннем (абавязкова сухім) або жытнім вотруб'ем добра чысціцца футравыя рэчы. Іх уціраюць у футра, а пасля рэч трэба добра выбіць з левага боку.

## ...І ГАСПАДАРАМ

### Калі садзіць пладовыя дрэўцы

Садзіць дрэўцы трэба тады, калі яны паскідаюць лісце, што бывае каля паловы кастрычніка, аж да часу, пакуль на іх не з'явяцца пупышкі, г.зн. да канца красавіка. Таму дрэўцы можна садзіць і зімою, абы толькі дазваляла надвор'е і зямля была незамёрзлай.

Аднак практыка паказвае, што дрэўца пасаджанае раней лепш расце. Восеньская пасадка пажадана на лягчэйшых глебах, а на цяжкіх, вільготных — лепш садзіць вясною.

Маладзейшыя расліны лепш пераносяць пасадку і таму найлепш садзіць 2—3-гадовыя дрэўцы.

Паводле навейшай практыкі, дрэўцы трэба садзіць на глебе прыгатаванай гэткім спосабам, як гэта робіцца пад іншыя культуры, напрыклад, пад буракі — глыбокае ворыва. Садзіць дрэўцы трэба ў ямкі такой велічыні, каб толькі маглі змясціцца карані. Пасадзіўшы дрэўца, зямлю над карэннем трэба прытаптаць, а вясною — то і паліць вадою.

(яц)

# З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

**(17)**

*(заканчэнне; пачатак у 21, 31, 33—36, 38—47 н-рах)*

У апошняй частцы гэтага цыкла прапануем прыказкі і загадкі, якія запамяталіся Надзеі Руско з Белавежы.

### Прыказкі

Коб людзі не ўміралі,
то небо падпіралі б.

* * *

Німа жэны, німа гора,
пашла жыці за Рыгора.

* * *

За табак і люльку,
аддаў бы Ганульку.

* * *

Як мужык за парог,
тады баба за пірог.

* * *

Капуста, то другая луста .

* * *

Васна, васна, шчо ты нам прынесла,
дзеўчынкам па цвіточку,
хлопчыкам па кіёчку.

* * *

Калакуста, калакуста,
сачавіца будзе густа.

### Загадкі

Пад прыпачком рубажы,
хто ведае — не кажы!
*(пацеркі)*

Чорны коцік, калодку коціт.
*(блыха)*

Шчо над намі, уверх нагамі.
*(муха на столі)*

Рукою вышэй Бога, а чыном ніжэй Бога.
*(Ян Хрысціцель)*

Круць, вэрць — в чэрапочку смерць.
*(набітае ружжо)*

Брат брата сячэ, белая кроў цячэ.
*(жорны і мука)*

Я сама сіджу ў каморы, а косы мае на дворы.
*(цыбуля)*

Бэз слёз і бэз вачэй, а заплачэ найхутчэй.
*(скрыпка)*

Загану загадку, ты разрашы вапрос, мерыўса у пэту, а папаў у нос.
*(„папсаванае паветра")*

Запісаў ПЁТР БАЙКО

# Піша Іда ў газету

Піша Іда ў газету — вельмі мае на гэта ахвоту. Рабіць ужо не мае сілы, то хоць скажа што для „Нівы". Можа, добра ўсяго не знае, але Бог ёй дапамагае. У час кепскі і добры, яна цешыцца з нагоды. Жыццё як жыццё — рознае было, але ўсё да лепшага ішло. І ўжо больш паўвека прайшло. Яе дзеці дарослыя — здаровыя, да работы нелянівыя. Дай вам усім гэтага, Божа, усім, хто думае і робіць прыгожа. Спаткала яна знаёмую, а тая пытае: „Што ты цяпер, Іда, парабляеш?" „Нарабілася я ўжо, дый узялася за пяро. Колькі ж можна нам рабіць, не пара нам адпачыць?" „Засталося мне нямнога, што ж рабіць з сябе дурнога? Трохі часу цяпер маеш, дык з яго як карыстаеш? Піша, едучы аўтобусам і мармыча штосьць пад носам..." „Можа, гэтага ніхто не будзе чытаць, можа, будзе гэта на паліцы ляжаць, а, можа, дачакаецца, што праўнук дачытаецца, і запытаецца, што значаць бабы словы на беларускай мове".

ІДА

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. вялікі сад з алеямі, 8. жыллё манарха, 9. вымаўленне „а" замест „о", 10. вайсковы разрад, 11. пастух авечых атар, 13. кіраваў панскім маёнткам, 15. член візантыйскай дынастыі ў 1258—1453 г.г., 16. гукі, якія ўзнікаюць пры мове, 20. рознагалоссе, спрэчка, 22. невялікае паселішча, хутар, 23. вядомасць, прызнанне, 27. ашчаднасць, 29. французскі астраном і фізік (1749—1827), 30. жаночае імя, 31. мужчынскае імя, 32. чалавек, які жыў раней, 33. нападзенне, 34. жаночы голас.

**Вертыкальна:** 1. белая пажыўная вадкасць, 2. мэбля для сядзення і ляжання, 4. узор у відзе ліній і раслін, 5. яўрэйская абшчына, 6. падарунак маладой ад бацькоў, 7. мужчынскае імя, 12. злосны жарт, 14. веравызнанне, 16. горад у Палессіне, 17. буйная жывёла нашых лясоў і балотаў, 18. драпежнае жывотнае з пушыстым хвастом, 19. еўрапейскі вулкан, 21. афінскі „крэмль", 24. адсутнасць ахвоты да працы, 25. ...-ўстанька, 26. вялікі манастыр, 27. даўняя Грэцыя, 28. расліна сямейства асаковых.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 41 н-ра:** шчупак, дручок, адклад, задача, зараза, жалеза, аддзел, гняздо, Герман, расізм, Вісмар, расказ.

Кніжныя ўзнагароды высылаем І. Ігнатовічу і Л. Пацэвічу з Беластока.

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Хачу расказаць табе два сны. Адзін — майго мужа, а другі — мой. Мне здаецца, што яны неяк звязаны ды абазначаюць штосьці дрэннае. Сніцца мужу, што ў ваколіцах яго вёскі ляцяць самалёты, а за імі, што дзіўнае, ляцяць і самаходы, і танкі. Усё ляціць. А праз некалькі дзён сніцца мне такое. Побач той жа вёскі — пры лесе, на лузе ляжыць нябожчык (гэты чалавек нядаўна памёр, я яго ведала, але ён мне зусім чужы). І я стаю непадалёк ад яго. А потым гэты ж нябожчык ужо ў хаце мужавага брата, які жыве ў той вёсцы. Маюць яго хаваць. Ляжыць ён у пакоі пры акне. У хаце шмат людзей. І на панадворку таксама. Бачу тут людзей з суседняй вёскі. Увайшла я ў гэты пакой, дзе нябожчык, і бачу, што ён ажыў: вочы адчыненыя, варушацца. Я падышла да мужа і кажу, хуткую дапамогу выклікаць трэба, ратаваць, ён жа ж жывы. А муж махнуў рукой і сказаў: не трэба, нічога рабіць не трэба. І прачнулася я.

Марыя

Марыя! Сны твайго мужа і твой сапраўды нядобрыя. Сон мужа прадвяшчае нейкую сварку, непаладкі, бо напамінае вайну, а твой — што яшчэ горш — прадвяшчае нейкую небяспеку. Няма горшага, як ажываючы нябожчык у сне. А твой нябожчык жа расплюшчыў вочы і заварушыўся. Тое, што і ў хаце, і на панадворку было шмат людзей, абазначае страту самастойнасці. Можа, тая небяспека будзе якраз у гэтым. Можа, аднак, усё неяк абыдзецца, чаго жадаю табе ад усяго сэрца.

АСТРОН

# З гараскопа друідаў

**БЯРОЗА,** *(24 чэрвеня)*. Невыпадкова менавіта бяроза „аддала" свае каштоўныя рысы тым, хто нарадзіўся ў дзень летняга сонцавароту. Бяроза першай „засяляе" прасекі, пажарыны, пад яе апекай там вырастаюць хваёвыя пароды. З кары — бярэсты — гоняць дзёгаць, які даўней выкарыстоўваўся як эфектыўны лекавы сродак пры захворванні скуры. Народная медыцына раіць настой з бярозавых пупышак, маркуюць, што гаючыя ўласцівасці мае і сок.

Людзі-бярозы ўмеюць прыстасавацца да кожнага месца, лёгка прывыкаюць да любых умоў, абы толькі мець магчымасць працаваць у спакоі. Яны памяркоўныя і цярпімыя, лёгкія да сумеснага жыцця, не вымушаюць ахвяраванняў, нічога не патрабуюць. Кожны з іх зможа наладзіць у сваёй хаце клімат спакою і шчасця. Бяроза наогул любіць шыкаваць, любіць паказаць сваё багацце, але яна не сноб, таму часта выбірае месцам жыцця вёску. Такія людзі звычайна сентыментальныя, але баяцца палымяных пачуццяў, магчыма, таму, што патрабуюць ад блізкіх няшмат, задавальняючы іх прысутнасцю. Ды затое не абмяжоўваюць сябе ў выдумках і вынаходлівасці. Вылучаюцца яны і сваёй інтэлігентнасцю, творчым падыходам да справы. Ім забяспечаны поспех у кожнай галіне дзейнасці, але найбольшага могуць дасягнуць яны ў мастацтве. Наогул жа іх фантазія і працавітасць адчыняюць ім любыя дзверы, вось толькі не імкнуцца яны ў „вышэйшы свет", бо ўплывовыя людзі іх не цікавяць.

*(працяг у наступным нумары)*




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1995 r. upływa 20 listopada 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

### Пераблытаў

Неяк раз сярод зімы,
Будучы ў камандзіроўцы,
Дзвюм Людмілам два пісьмы
Напісаў Цімох і слоўцы
Адпаведныя знайшоў:
Першай — радасць мая, кветка,
А другой — прайшла любоў,
Гэтаму сама ты сведка.
А вярнуўўшыся здалёк,
Зразумець нiяк не можа:
Жонка, быццам матылёк,
Палюбоўніца, як вожык.
Усё гэта нездарма!
Аж танцуе палавіна...
— Ад твайго, Цімох, пісьма
Зноў цвіту я, як каліна.

**Аркадзь Нафрановіч**

## Думкі ўслых

* З графічнага пункту гледжання, яйка — таксама нуль.
* Гляньце, што жыццё з ім зрабіла, хаця ён з ім нічога не робіць.
* У сляпых таксама ёсць свой пункт погляду.
* Усё жыццё ганяўся апаражняць панчохі. Маладзіц і бабуліну.
* Сапраўдны вегетарыянец нават сваю сліну не праглыне.
* Каменнае сэрца ў выпадку інфаркту выклікае лавіну спадкаемцаў.

**Адам Сяменчык**






Малюнак В. Дубовіка

### СМЕХ У САНАТОРЫІ

Лекар да медсястры:
— Як адчувае сябе той хворы з 10 палаты пасля аперацыі?
— Лепш: раніцай прачнуўся і стаў гаварыць.
— А што ён гаворыць?
— Што адчувае сябе ўсё горш.

* * *

Пасля поўначы жыхар блока дабіваецца да суседа:
— Перастаньце іграць на трубе, а то здурэю!
— Запозна; я перастаў іграць ужо гадзіну таму.

* * *

— Пан доктар, людзі гавораць „здаровы як рыба". Ці сапраўды рыбы такія здаровыя?
— Хіба так; яшчэ ніколі ніводнай я не лечыў.

* * *

Экзамен у медыцынскай акадэміі:
— Дзе знаходзіцца сэрца? — пытае прафесар.
— У грудзях, — адказвае студэнт.
— Няправільна: сэрца знаходзіцца ў калясардэчнай сумцы, — тлумачыць прафесар.
— Цікава! А каб я вас, пан прафесар, спытаў, дзе цяпер вы знаходзіцеся, то які быў бы ваш адказ: у экзаменацыйнай зале ці ў кальсонах?

* * *

Хворага праспалі перад аперацыяй. Калі прачнуўся, здзівіўся, як хутка пастарэў твар нахіленага над ім хірурга:
— Ці я так доўга быў непрытомны, што вам, пан доктар, за гэты час вырасла такая доўгая, сівая барада?
— Я не доктар, — адказаў барадаты, — я Святы Пётр.

* * *

Кавальскі прызнаецца лекару, што нядаўна наведаў знахара.
— І якіх дурнотаў нагаварыў вам гэты шарлатан? — нервуецца лекар.
— Сказаў, каб пайшоў я да вас.

* * *

Прыходзіць бабулька да лекара і просіць лякарства супраць цяжарнасці.
— Навошта яно вам? — здзіўляецца лекар.
— Каб галава не балела.
— Як гэта?
— Нармальна; калі мая ўнучка вечарам збіраецца на рандэву, даю я ёй гэтыя пілюлі і ўжо мне галава не баліць.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**

*Сцяпан Абух*

## З запісаў нацыяналіста

### 9. Андрусь Маўзаленя

Андрусь Маўзаленя нарадзіўся ў замбарскім бушы. Маці выхавала хлопца ў карэннай мове Замбара — замбаран. Як і ўсе ягоныя аднагодкі, Андрусь Маўзаленя меў нялёгкае дзяцінства — правеў яго з аўтаматам замест падушкі. Маладосць хлопца прыпала на час змагання Замбара з ангельскімі каланізацыйнымі прыгнятальнікамі. Маўзаленя тады наўсцяж спазнаў усе дрыгвяннікі і імшары свайго краю. І калі нарэшце апошні ангельскі наёмны салдат няслаўна пакінуў замбарскую зямлю, Андрусь Маўзаленя на чале свайго ўзвода прыняў удзел у парадзе ў сталіцы вольнага Замбара. Першы самастойны ўрад краіны аказаўся, аднак, не лепшым за ангельскае губернатарства. Да ўлады прыйшлі клеркі каланізацыйных апрычнікаў — яны забыліся на сваю традыцыю, узаконілі трэйшан інгліш (Trasian English) як дзяржаўную мову, а ўсіх змагароў за волю і незалежнасць роднага краю пусцілі ў распыл. Андрусь Маўзаленя, як адзін з нешматлікіх, апынуўся ў Зоне...

У Зоне Андрусь Маўзаленя доўгія гады займаўся арганізацыйнай працай у Асацыяцыі народнай песні і танца. Уславіўся тым, што на сваіх супрацоўнікаў падбіраў людзей замбарскага грамадзянства, а таксама і тым, што афіцыйныя нарады вёў на мове замбаран. На жаль, не захаваліся з таго часу ніякія дакументы — замбаран была мова гутарковая, незапісная. Пакінуў па сабе, аднак, Андрусь Маўзаленя багацтва помнікаў матэрыяльнай культуры — Зона тут шмат у чым абавязана перад ім. Наймацней талент А. Маўзалені выявіўся якраз у мастацтве будаўніцтва. Не буду тут пералічваць усе яго праекты. Скажу толькі пра самае геніяльнае дасягненне канструктарска-архітэктарскага інтэлекту Маўзалені — гэтак званую „Пабудову-ІІ"...

„Пабудова-ІІ" знаходзіцца ў Зоне. Гэта ўсё, што можна верагодна сказаць пра яе месцазнаходжанне. Бабко трапіў туды зусім выпадкова. Ён надзвычай пераконваў мяне пазней, што „Пабудова-ІІ" быццам завяршаецца купалам. Мне збудаванне гэтае — калі забрыў я туды ў час начнога бадзяння па Зоне — паказалася з двухспадовым дахам. Бабко мяркуе, што „Пабудова-ІІ" знаходзіцца дзесьці ў ваколіцах заліва. Я гатовы прысягаць, што стаіць яна не болей за нейкіх пяцьсот метраў ад сядзібы Асацыяцыі. Сам жа Андрусь Маўзаленя, выступаючы на форумах дзяяцкай эліты Зоны, таямніча замоўчвае гэту акалічнасць...

Ядро „Пабудовы-ІІ" знаходзіцца ў яе падвале. Як я ўжо сказаў, была надта позняя гадзіна, калі я трапіў на „Пабудову-ІІ", а лепш сказаць — усвядоміў сабе яе прысутнасць. Ва ўсім будынку палілася толькі адно цьмянае святло. Я хацеў ужо прайсці міма, калі ў ваконцы гэтым паказалася постаць і зрабіла ў мой бок жэст. Я разгледзеўся па скупа асветленай вуліцы. У жаўтлява-імглістым наваколлі не было ніводнай акрамя мяне душы. Так, жэст быў накіраваны ў мой бок. Па нагах прайшла млявасць і я, не ведаць чаму, накіраваўся ў будынак...

У змрочным прахоне чакала ўжо тая постаць — Андрусь Маўзаленя, як мне сёння здаецца. У адной руцэ трымаў пучок ключоў, здагадаўся я па гуку.

— Многія, — сказаў ён мне, а былі гэта адзіныя выказаныя ўголас тае начы словы, — не ўсведамляюць сабе, што такое „Пабудова-ІІ". Але яна будуецца і я вам гэта пакажу.

Сказаўшы гэта, адвярнуўся і пачаў спускацца ў падвал, а я падаўся за ім. Дзверы, якія ён адчыняў, рыпелі жаласліва, замкі, хоць іржавыя, паддаваліся спрытнай яго руцэ. Мы прайшлі ў галоўны, як мне здалося, калідор падвала. Дзе-нідзе свяціліся лямпы, кідаючы ніклае святло. Па абодвух баках цягнуліся дзверы. Я ўбачыў більярдную залу, за ёй склад бульбы, бібліятэку, далей крэматорыю... Маўзаленя няспешна адчыняў усе дзверы. Некаторыя з іх вялі ў наступныя калідоры, па абодвух баках якіх ізноў цягнуліся дзверы. Мы прайшлі ў адзін такі калідор. Тут былі келлі, але таксама і памяшканні без акрэсленай мэты — дзеля забудовы прасторы, былі ўваходы ў наступныя калідоры. З келляў час-часом даходзіў пібразг ланцугоў і енкі дзеячаў-пакутнікаў. Падвал мне паказаўся неабсяжным — я сабе ўсвядоміў, што калідоры не канчаюцца, з аднаго праходзім у іншы ды так і не ведаем, ці вярнуліся ўжо ў пункт выйсця, ці можа знаходзімся дзесьці ў іншым месцы...

Калі нарэшце трапіў я на вуліцу, адчуў, што мой лоб гарыць агнём. Я дакрануўся да яго — ліхаманка. Агледзеўся яшчэ на „Пабудову-ІІ", але так і не распазнаў у цемрыве, які гэта быў будынак.

Цяпер, калі прыгадаў я сабе тую ноч, аб'явілася мне вялікая тайна „Пабудовы-ІІ". У яе пачатках уся Зона гаварыла пра „Пабудову-ІІ", пра яе патрэбнасць ды надзвычайную ролю ў развіцці Зоны. Сёння ні я, ні хто-колечы са знаёмых яснасці такой ужо не мае. „Пабудова-ІІ" не ведае свае канчатковае мэты. Маўзаленя пабудаваў зону ў Зоне...




Сэрцайка, можа жанчына на маім месцы выліла б мора слёз. Я трымаюся. Трымаюся да сёння, хаця часамі ахвота выць.

Ажаніўся я з так званай „разводкай" з дзіцём. Была яна вельмі прыгожая, і я закахаўся без памяці. Не мела для мяне значэння, што сына яна нарадзіла ад каго іншага. Я згаджаўся быць яго бацькам, апекуном — кім бы толькі яна не захацела. Але яна вырашыла інакш, сына будзе выхоўваць бабуля, яе маці, а мы будзем жыць адны і самі будзем будаваць сваё шчасце. Ніхто нам не будзе перашкаджаць!

Мне б гэты маленькі, цудоўны чалавечак зусім не перашкаджаў, наадварот, я ўжо кахаў яго, як і сваю жонку, але мела быць так, як пастанавіла яна.

Мы пачалі весці бурнае жыццё, бавіліся, хадзілі па гасцях — мелі час, каб бываць сярод людзей. Я са здзіўленнем сцвердзіў, што мая жонка, аддаўшы сына бабцы, вельмі рэдка наведвае яго. Быццам, калі ўжо аддала яго, дык скінула з сябе ўсе клопаты, звязаныя з яго выхаваннем.

Тым часам жонка зацяжарыла. Я вельмі ўцешыўся, што ў нас будзе сваё дзіця. Ну, і пэўна. Нарадзілася дзяўчынка, як лялечка. Падобная была на жонку, але, казалі ўсе, і з мяне ўзяла ўсё, што было найлепшае. Я не мог адарваць вачэй ад малой, стаяў днямі і начамі над яе калыскай. Нават водпуск узяў на яе нараджэнне.

Жонка акрыяла пасля родаў. Пачала малявацца, апранацца модна. Бегала па розных крамах, пакуль былі грошы. Была вельмі экстравагантная, любіла яркія колеры.

На жаль, усе мае кавалерскія запасы скончыліся, а на большы заробак не было што разлічваць. Жонка любіла добрае жыццё, а такое, як мы вялі, яе не цешыла. Думала яна, думала і прыдумала, што паедзе на заробак за граніцу. Доўга не збіралася. Як бы ні ў чым не бывала, пакінула мяне з паўтарагадовай дачушкай і паехала ў „Еўропу".

Спачатку я думаў, што звар'яцею. Усё звалілася на маю галаву: праца, дом, дзіця. Цешча рабіла выгляд, што яе мае клопаты не датычаць, бо яна мае абавязак выхаваць унука. Я пацяшаў сябе тым, што жонка хутка вернецца, і маё жыццё зноў стане нармальным. Міналі, аднак, месяцы, а пасля гады, а жонка не вярталася.

Дачушка тым часам пайшла ў нулявы клас. Я ўсё яшчэ чакаў, водзячы дзіця ў школу і забіраючы яго адтуль, кормячы малую і мыючы ёй бялізну. Нікога ў мяне тут не было, а бацькі даўно памерлі. На нікога не мог я разлічваць, бо не меў ні братоў, ні сясцёр.

Жонка перастала мне пісаць, але сябры казалі, што ўзяла да сябе свайго сына. І раптам новая вестка, як гром з яснага неба. Жонка загінула ў аўтамабільнай катастрофе. І так я стаў удаўцом з дзіцём.

Сёння мая і толькі мая дачушка вучыцца ўжо ў ліцэі. Я — шчаслівы бацька. З ніякай жанчынай я не звязаўся трывала, проста адчуваю агіду да такой установы, як сужонства. Часамі сустракаюся з нейкай жанчынай (я ж яшчэ малады мужчына), але ніколі не ажанюся. Мая дачушка — адзіная мая радасць і надзея. Нам разам добра і спакойна. Ніхто з нас нікому не здрадзіць, мы патрэбныя адзін другому. Бабуля зусім не цікавіцца ўнучкай — так, быццам бы яе і на свеце не было. А мы і не просім.

Бядую толькі, Сэрцайка, ці добра я выхаваў малую...

**Яўген**

Яўген! Па ўсяму відаць, што ты выхаваў яе добра. Дастаткова было пачуць ад цябе, што ты непакоішся пра гэта. Твая колішняя жонка — тып чалавека, які і сустрэць цяжка. Як зязюля, падкідала сваіх дзяцей, а сама адляцела. Лёс сам расправіўся з такой маці. Яе пачуццёвы холад ішоў, відаць, ад маці.

**Сэрцайка**